ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

# О личной власти и судьбах народов

Желание взяться за перо появилось у меня после прочтения статьи Вячеслава Оргиша «Суверенитет или чечевичная похлебка» (№16, 26.02.2019). Многие его мысли совпадают с моими представлениями. Отрадно, что автор не обошел проблему глобализации, хотя четко не обозначил своего отношения к этому процессу, но заметил, что в условиях глобализации некоторая угроза национальным суверенитетам существует. А я утверждаю, что вся эта борьба за суверенитеты часто сводится к проблемам личной власти вождей.

Продолжая разговор о принципах мироустройства, хочу обратить внимание, что благодаря глобализации и созданию Европейского Союза страны, входящие в него, уже 75 лет живут без войны, хотя вся предыдущая история – непрерывные сражения.

Я считаю, что спасение цивилизации состоит в объединении всех стран под эгидой ООН, полной ликвидации всех армий и вооружений. Но это станет возможным, когда на планете исчезнет последний диктаторский режим. Сознавая это, некоторые страны тратят много сил и средств на борьбу с диктаторскими режимами, но их все еще много. К тому же диктаторы бывают солидарны и поддерживают друг друга. Вспомните, как Сталин поддерживал Гитлера вплоть до июня 1941 года, когда на Союз двинулись танки, сделанные из советской стали и заправленные советским топливом.

Свою солидарность диктаторы демонстрируют и сегодня. Только теперь они именуют себя президентами, председателями, генсеками и так далее.

В отличие от средневековых королей, один из которых прямо заявил «Государство – это я», нынешние диктаторы действуют хитрее. Они содержат при дворах разные советы, собрания, думы, сенаты и прочие атрибуты парламентаризма, которые выполняют чисто декоративные функции, а реальная власть принадлежит одному человеку. Механизм достижения абсолютной власти стар, как конная тяга, и прост, как оглобля: напрямую подчинить себе все силовые и правовые структуры и употреблять их в репрессивных целях.

В цивилизованных странах понимают опасность абсолютной бессрочной власти и ограничивают сроки пребывания «у руля», чтобы вождь не заболел властоманией, которая, словно наркотик, затмевает разум и парализует душу. Ведь Homo sapiens устроен так, что одним из факторов выброса серотонина – гормона радости и счастья – является страх и трепет окружающих. В этом и состоит главная прелесть власти. Богатство позволяет повелевать только штатом слуг, а власть – миллионами.

Вручить судьбу целого народа воле и прихоти одного человека – это опасно. Наглядный пример – гитлеровская Германия. На мой взгляд, правы те, кто предлагает сделать нашу Беларусь парламентской республикой. Коллективный разум сильнее, а коллективная власть справедливее.

Возвращаясь к публикации В.Оргиша, хочу обратить внимание на следующую фразу: «Наше общество нуждается в диалоге и дискуссии». Считаю, что это очередная утопия после мечтаний П.Мигурского о демократизации и И.Борисова о принятии новой редакции Конституции.

Приставка «ди» означает наличие двух противоположных полюсов, например, как в электростатическом диполе – плюс и минус. Какой диалог и дискуссия могут быть в нашем монополярном единогласном Национальном собрании? Или в государственных средствах информации, занимающих почти все информационное пространство и не допускающих даже намека на плюрализм и разномыслие.

Такая дискуссия возможна разве что на страницах «Народной Воли», но ее услышат только 0,2 процента электората.

Позволю себе еще порассуждать о таких проявлениях народовластия, как референдумы, которые далеко не всегда во благо народа. Ведь референдум – это волеизъявление среднестатистического гражданина, а нужно, чтобы такие решения принимали граждане, интеллектуальный уровень которых выше среднего. Наглядный пример – референдум о выходе Великобритании из ЕС. Проблемы, которые сотворили среднестатистические граждане, теперь не могут разрешить и тысячи умников.

Я веду к тому, что к участию в референдумах должны допускаться те, кто прошел тестирование на политическую, экономическую, психологическую грамотность независимо от возраста.

А то получается, что судьбоносные решения принимает баба Маня, которую не выпускают на улицу, потому что дорогу домой она найти уже не может. Опечатанную урну для голосования ей привезут на дом, и она сделает свой «осознанный» выбор.

**Валерий ЛИСТОПАД,**
**бывший учитель,**
**ударник XII пятилетки.**
*дер. Лучники Слуцкого района.*

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## В Беларуси снижается смертность от заболеваемости злокачественными опухолями

В Беларуси смертность от заболеваемости злокачественными новообразованиями постепенно уменьшается, ежегодно снижаясь примерно на 1%.

Об этом сообщил в Витебске во время научно-практической конференции заместитель директора по научной работе РНПЦ онкологии и медицинской радиологии им.Н.Н.Александрова Сергей Красный, передает БЕЛТА.

По словам Сергея Красного, на протяжении длительного времени в Беларуси отмечается постепенный рост числа вновь выявленных злокачественных новообразований. В прошлом году эта цифра составила 52 тыс. случаев. С каждым годом она увеличивается еще примерно на 1 тыс.

«Если прогнозировать ситуацию заболеваемости на ближайшие годы, то примерно через 20 лет у нас будет выявляться около 70 тыс. новых случаев злокачественных опухолей. При этом смертность от злокачественных новообразований стабилизировалась и даже постепенно уменьшается: примерно на 1% в год»», – констатировал заместитель директора РНПЦ.

По его мнению, это обусловлено прежде всего заслугами отечественной онкологической службы и всего здравоохранения в целом.

«Результаты зависят не только от хорошего лечения пациентов, но и от своевременного выявления онкозаболеваний, – отметил Сергей Красный. – Ни для кого не секрет, что при первой стадии пятилетняя выживаемость приближается к 100%, при второй уменьшается до 80%, при третьей составляет 50% и при четвертой – около 5–10%. Поэтому если мы всех пациентов будем выявлять в начальных стадиях, в первой и даже нулевой (а сейчас именно такая задача ставится), то результаты лечения будут наилучшие».

Сергей Красный подчеркнул, что рак – коварная болезнь, которая на ранних стадиях не проявляется, характерные симптомы возникают лишь на 3–4-й стадии. В этой связи в Беларуси разрабатываются скрининговые программы.

СТАТЫСТЫКА

## Дзе вы, беспрацоўныя?

Калі верыць афіцыйнай статыстыцы, то ў Беларусі цяпер беспрацоўныя складаюць усяго 0,3 працэнта ад працаздольных. Горшыя паказчыкі маюць Брэсцкая і Гродзенская вобласці (0,5%), найлепшы вынік па Мінску – 0,1 працэнта беспрацоўных.

**Кацярына ЗУЕВА.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

## Закапаныя вёскі

Помніцца, як гадоў дзесяць таму ўразіла мяне апавяданне Барыса Пятровіча «Пахаванне вёскі». Пра тое, як у чарнобыльскай зоне (адкуль аўтар родам) знайшлі спосаб змагання з радыяцыяй – забруджаныя вёскі проста закопвалі ў зямлю. Героі апавядання – экскаватаршчык і бульдазерыст, – стаўшы далакопамі ад імя дзяржавы, не забываліся і пра сябе – прыгандлёўвалі пакінутай у хатах маёмасцю. Спраўны тэлевізар ці халадзільнік за пляшку-другую гарэлкі – на гэткі тавар пакупнік заўсёды знойдзецца.

Хлопцаў сумленне не мучыла (навошта дабру прападаць?), а пасля тых бартарных гешэфтаў і працавалася весялей. І вось – «Пятро сеў за рычагі, упёрся ў сцяну. Хата, нібы жывая, задрыжэла, застагнала, трымаючыся за зямлю, чапляючыся за жыццё з апошніх сілаў, а потым з трэскам, быццам косці ламаліся, і стогнам – шух-х-х! – ссунулася ў яміну».

Магчыма, у тых чарнобыльскіх пахаваннях і была нейкая рацыя. Бо што было з тымі вёскамі рабіць? Паліць – дык кожная хата ператварылася б у міні-рэактар. Не чапаць – дык вокны-дзверы-бэлькі з тых хат хутка раз'ехаліся б па блізкіх і далёкіх лецішчах. А тут і галавы залішне ламаць не трэба – шух-х-х, і можна спраўляць чарговыя памінкі.

Не спрабуйце заткнуць вушы – сёння гэты «шух» чуцён па ўсёй Беларусі. Апрабаваны ў зоне хуткі і танны спосаб «утылізацыі вёсак» прыйшоўся даспадобы адказным за сельскую гаспадарку чыноўнікам. Выміраючыя паселішчы – гэта ж дадатковыя гектары! І паехалі па раёнах матарызаваныя далакопы. Экскаватары капаюць, бульдозеры спіхваюць, чыноўнікі плюсуюць пасяўныя плошчы.

Шух – і хата, што ўсяго пару гадоў прастаяла без дагляду, валіцца ў глыбокую яму-магілу.

Шух – следам за ёю адпраўляецца хляўчук з прыбудоўкамі.

Шух – і паўвёскі ўжо закапана, а пазасталыя хаты з самотнымі бабулямі ў вокнах з жахам глядзяць на разраўняныя пусткі.

Спакойна сузіраць падобнае відовішча немагчыма. І не толькі таму, што «ўсе мы з хат», і сэрца шчыміць, і памяць вяртае ў вясковае маленства. Справа ў тым, што хаты закопваюцца як стаяць, ніхто іх да «пахавальнага абраду» не рыхтуе і смецце па каляровых кантэйнерах не сартуе. У зямлю ідуць і шматкроць фарбаваныя дошкі, і пазелянелы ад часу шыфер, і пластмаса, і ўсё, што назапашвалася па цёмных каморах дзесяцігоддзямі.

А той жа шыфер утрымлівае азбест, які, паводле сусветных стандартаў, лічыцца канцэрагенам першай катэгорыі. Небяспечным для здароўя. Першымі гэта выявілі ў Фінляндыі – там яшчэ ў 1970-я гады закрылі азбеставае радовішча паблізу мястэчка Паакіла. А з 2005 года азбестава-цэментны шыфер забаронены ва ўсім Еўрасаюзе.

А ў нас? Мала таго, што азбеставым пылам дыхалі (і працягваюць дыхаць) цэлыя пакаленні суайчыннікаў, дык мы сёння «накрываем» тым патрушчаным шыферам зямныя нетры. Каб потым чакаць ад зямлі-карміцелькі экалагічна чыстай прадукцыі?

Не дачакаемся. Зямля адпомсціць. За канцэрагены, за насычаную смярдзючымі лакамі-фарбамі драўніну, за пластмасу, што стагоддзямі будзе распадацца на мікраэлементы пад бульбянымі ці збожжавымі палеткамі.

Тыя бульдозерна-экскаватарныя пахаванні вёсак прыдумаў, відаць, схільны да самагубства чалавек. Прычым ён вырашыў датэрмінова адправіць на той свет не толькі сябе, але і сваіх дзяцей, і ўнукаў, і праўнукаў. І сапраўды, толькі хворы на галаву можа зацвердзіць такую «ўтылізацыю» ў маштабах усёй краіны. А яна сёння ідзе – з большай ці меншай інтэнсіўнасцю – ва ўсіх шасці абласцях.

А чаму не папілаваць тыя лядашчыя хаты на дровы і не раздаць бясплатна тым самым адзінокім бабулям, што дажываюць свой век у асуджаных на пахаванне вёсках? І карысць была б, і зямля не засмечвалася б. Але на гэта патрэбны час і людскія рэсурсы. Куды прасцей падагнаць бульдозер і – шух…

На Зэльвеншчыне мне расказвалі, як адна бабуля звярнулася да экскаватаршчыка-далакопа з незвычайнай просьбай. Прынесла пляшку і папрасіла закапаць разам з хатай… яе. Маўляў, усё роўна хутка паміраць, дык каб ляжаць не ў цеснай труне, а – ва ўласнай хаце. Да якой за доўгае жыццё прырасла душой.

Экскаватаршчык трапіўся з гумарам, узяў пляшку і сказаў ісці рыхтавацца, а ў патрэбны момант ён пад'едзе…

Падобным чорным гумарам прасякнуты фільм «Карп адмарожаны», які падазрона часта сталі паказваць па расійскіх тэлеканалах (нібы з намёкам – круці не круці, а трэба памярці). Дык там дзея адбываецца на здымачнай пляцоўцы, а ў нас – у рэальным жыцці.

Памяці роднай напалову закапанай вёскі я прысвяціў верш, які заканчваецца радкамі: «*Экскаватарны раскоп. / Вецер рве газету. / Комін, нібы перыскоп, / Глянуў з таго свету*». Скажаце, «марская» метафара тут не зусім да месца? Але ж мне і насамрэч здаецца, што гэта не краты нашаткавалі гурбачак, а закапаныя хаты прыўзнялі з глыбіні закураныя коміны і дакорліва глядзяць нам услед…

ЧУЛІ?

## Заробак мінскіх настаўнікаў наблізіўся да 1 тысячы рублёў

*Прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі апублікаваў дадзеныя па заробках у сваёй сферы за сакавік (красавіцкіх лічбаў яшчэ няма).*

Аказваецца, што сярэдні заробак у адукацыі склаў у сакавіку ўсяго толькі 729,1 рубля. Зразумела, «бруднымі» на рукі выходзіла яшчэ менш. Пры гэтым настаўнікі ў сярэднім атрымалі ў сакавіку 902 рублі зарплаты.

Што тычыцца рэгіёнаў, то найбольш плацяць настаўнікам у Мінску – 976 рублёў. Далей спіс заробкаў школьных выкладчыкаў выглядае так:

Гомельская вобласць – 918,5 рубля,
Брэсцкая – 913,4,
Мінская – 884,3,
Віцебская – 881,6,
Магілёўская – 855,6,
Гродзенская – 850,5 рубля.

Наўрад ці значна зменяцца гэтыя лічбы ў разліковых лістках настаўнікаў за красавік. А вось майскі заробак усім бюджэтнікам абяцалі павысіць. Яшчэ ў лютым міністр фінансаў **Максім Ермаловіч** на сумесным пасяджэнні Савета па ўзаемадзеянні органаў мясцовага самакіравання пры Савеце Рэспублікі і Савета Акадэміі кіравання пры прэзідэнце заявіў: «*Плануюцца два этапы павышэння: май (у межах прадугледжаных у бюджэце сродкаў) і верасень (неабходна адшукаць дадаткова каля 200 млн рублёў*».



Дарэчы, што тычыцца ўвогуле зарплаты ў сферы адукацыі па рэгіёнах, то ў сакавіку статыстыка была такой:

Мінск – 883,7 рубля,
Брэсцкая вобл. – 696,7,
Віцебская вобл. – 696,4,
Гродзенская вобл. – 695,7,
Мінская вобл. – 687,4,
Гомельская вобл. – 683,6,
Магілёўская вобл. – 679,7 рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ИНИЦИАТИВА

# «Робім разам»

## *Двор – для людей, а не для машин*



Представим себе картину: вы живете в новом пятиэтажном доме со всеми удобствами в областном центре. Неподалеку – парки и зеленые зоны, в непосредственной близости – магазины, больница, остановки общественного транспорта. Все вроде бы идет хорошо.

Но уплотнительная застройка – реальность нынешнего времени. И один застройщик посчитал, что площадка возле дома простаивает почем зря. И вот вплотную к вашему дому пристраивают еще один многоквартирный дом на четыре подъезда. Естественно, у немалого числа его жителей имеются личные авто. А о такой «мелочи», как дополнительная автостоянка, застройщик не позаботился.

Именно так произошло с жителями дома №55 по улице Речицкой в Бресте, когда к нему пристроили дом №55а. Впрочем, только ли проблема парковки волнует местных жителей? Дадим им слово.

– У нас и нормальной детской площадки нет! А у меня ребенку шесть лет, и у соседей много детей, – рассказывает Александра. – Несколько лет назад мы сами, жители, как могли, обустроили детскую площадку, каждый год своими силами ремонтируем ее, приводим в порядок. Но разве дети могут нормально играть на этом пятачке среди машин? Да и оборудование нужно современное, а не «кустарные» качели и лавочки…

– Машины стоят одна на одной, не может проехать ни «скорая», ни пожарная. А моей маме, между прочим, 75 лет. Да и присесть отдохнуть пожилым людям практически негде – удобных скамеек нет, – добавляет соседка Александры Оксана.

Жители домов №№55 и 55а убеждены: ситуацию нужно менять. Только вот как? Обратиться в местный ЖЭС с просьбой обустроить детскую площадку и парковку? Там примут, выслушают, но скажут: мол, идея хорошая, но денег на это нет. Обратиться в горисполком Бреста? Там тоже выслушают, перенаправят просьбу в ЖЭС, и история повторится…

И тут на помощь местным жителям пришла городская организация «Говори правду». Ее активисты во главе с Кристиной Ткачук недавно встретились с Александрой, Оксаной, Валерием и еще несколькими неравнодушными жителями.

– Мы хорошо поговорили с людьми и приняли решение провести небольшую социальную кампанию за благоустройство дворовой территории домов №№55 и 55а по улице Речицкой, – рассказывает Кристина. – Хотим добиться, чтобы автостоянка была оборудована на пустыре рядом с домами, а во дворе появились современная площадка для детей и скамейки для пенсионеров. Составили обращение в Брестский горисполком, собрали под ним более полусотни подписей жителей домов.

Руководитель Брестской городской организации «Говори правду» Александр Пась добавляет:

– Для нас очень важно, когда люди начинают верить в свои силы, в силу солидарности, когда они видят, что от их позиции и активности может зависеть решение многих насущных проблем. Также мы имеем небольшой опыт взаимодействия с властью, когда чиновники позитивно откликались на запросы людей и нашей организации. Недаром наша национальная инициатива называется «Робім разам»: работаем вместе – жители, активисты «Говори правду» и местная власть.



**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

*Присоединиться к инициативе «Робім разам» в Бресте вы можете по телефону (**+375-33)605-77-54.***

ЧУЛІ?

## Вярхоўны суд адмовіў «Несмяротнаму палку» ў рэгістрацыі

Калегія грамадзянскіх спраў Вярхоўнага суда пакінула без змянення рашэнне Мінскага гарадскога суда, які ў сакавіку не стаў рэгістраваць «Несмяротны полк».

Дарэчы, летась галоўнае ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама двойчы адмовіла ў рэгістрацыі гарадскому грамадскаму аб'яднанню «Несмяротны полк». Чыноўнікі знайшлі шэраг парушэнняў у рэгістрацыйных дакументах і статуце аб'яднання, якія вызначылі як «невыпраўляльныя».

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Колісь бегаў да каханкі, а цяпер гуляе ў «танкі»

Жыхар Магілёва схапіў у цiры макет аўтамата Калашнікава, выбег з ім на вуліцу і пачаў імітаваць страляніну. Прахожыя шарахаліся ад яго ў розныя бакі…

Як на вуліцу мужык
З аўтаматам выбег з ціра,
Тэрарыст нібыта, дык
На прахожых, скажам шчыра,
Жах нахлынуў цераз край,
А кагось хапіў паралюш.
Нават ворагу, бадай,
Сцэн падобных не параіш.
Сцэн такіх дзясяткі аж
Выдаюць з тэлеэкрана:
Што ні дзень, то рэпартаж
Ці з Ірака, ці з Лівана…
Тэрарыстаў зараз – цьма,
Што для свету – як навала.
Можа, гэтая чума
І да нас ужо дастала?
Магілёва жыхары
Так, напэўна, разважалі.
Тут да трох не гавары –
Лёс жыццё паклаў на шалі.
Дык і беглі, як каты,
І направа, і налева:
Хто за вугал, хто ў кусты,
Хто папросту стаў за дрэва.
Тэрарысту ж – смехата,
Ён, лічыў, жартуе ўдала,
І, як стрэлы, «тра-та-та»
З языка яго злятала.
З асалодай жартаўнік
Паражаў жывыя цэлі –
Даспадобы гвалт і крык.
Калі людзі зразумелі,
Што забіць не можа кат,
Не дагоняць «кулі» тыя,
Бо не існы аўтамат,
А патроны – халастыя,
Дык усе яны з засад
Падаліся ў контратаку,
Адабралі аўтамат
І пабілі б, як сабаку,
Быў бы ўвогуле капут,
Толькі міліцыянеры,
Дзякуй Богу, тут як тут –
Прынялі, як кажуць, меры.
А якім жа быў пралог?
Дзядзька, будучы паддатым,
Свой парыў стрымаць не змог –
Пагуляцца з аўтаматам
Захацелася яму,
Бо згадаў сваё маленства.
Мабыць, трапіць у турму
Ці ў псіхушку за шаленства…

* * *

Пэўна, думаеце вы:
Захапіўся ён вайною,
Бо хвароба галавы
Абвастраецца вясною.
Ну а мой вердыкт такі:
Я, сябры, скажу адкрыта,
Што здрабнелі мужыкі,
Падзяцінелі нібыта.
Нават і не лавелас
У суседкі ці ў каханкі
Колісь бавіў вольны час.
А цяпер гуляе ў «танкі».

### Ёсць праблемы

Бадай, хоць раз у год віно
У калектыве п'ём усе мы.
Як застаецца ўсё ж яно,
У калектыве ёсць праблемы…

### Не блудзі!

– Трэба дома бываць часцей! –
Жонка блуднага мужа дзяўбе. –
Нарадзіла ўжо трох дзяцей,
І ніводнага – ад цябе.

### Дабрахоць – у турмы

Каб у людзей было сумленне,
Як накануе нам Гасподзь,
Усе амаль што, без сумнення,
У турмы селі б дабрахоць…

### Чым далей у лес…

Каб не цяпнуць гора
Поўнай жменяй,
Помніце, дзяўчаты і жанкі:
Чым далей у лес,
Тым шанцаў меней,
Што вядуць усё ж на шашлыкі…

### Перасоўны кашалёк

Сабе жанчына ўбіла ў клёк:
Муж – перасоўны кашалёк.

### Мала просіш

Прайшоў мядовы месяц,
Быццам сон.
– Ну, як твой муж?
Ці дагаджае ён? –
Матуля запыталася ў дачкі.
– Давольна я,
Бо шчодры ён такі!
Што я прашу –
Усё купляе, мама!
– Ну ты й дурніца!
Проста просіш мала…

### На панелі

Жорстка кінула ў твар:
– Як вядуцца разлікі,
Лепш маленькі даляр,
Чымся дзякуй вялікі…

СТОП-КАДР




**18 мая более 20 тысяч велосипедистов собрались на пятый международный велокарнавал «Viva Ровар!». Стартовав от стеллы «Минск – город-герой», яркая колонна проехала по проспекту Победителей до «Минск-Арены» и вернулась в парк Победы – награждать самых креативных участников и веселиться** (фото tut.by).

**К слову, программа развлечений в этот весенний день была достаточно разнообразной – в центре столицы также прошел фестиваль «Ретро Минск», объединивший владельцев старинных раритетных автомобилей** (фото БЕЛТА).




РУБАМ!

## Што не задавальняе жодзінскіх чыноўнікаў у асобе партызана, франтавіка і пісьменніка Івана Сіняўскага?

Калі б Іван Сіняўскі дажыў да сённяшняга дня, то сёлета яму споўнілася б 100 гадоў. На жаль, яго даўно няма з намі. А таму я і мой калега Алесь Аркуш намагаемся, каб жодзінскія ўлады ўшанавалі памяць гэтага празаіка, адданага Беларусі чалавека. Нашу ініцыятыву падтрымала кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вось што мы пісалі ў лісце старшыням Жодзінскага гарсавета і гарвыканкама:

*«Звяртаемся да Вас з хадайніцтвам аб наданні сетцы публічных бібліятэк і адной з вуліц Вашага слаўнага горада імя пісьменніка Івана Сіняўскага (1919–2001), сябра нашай творчай суполкі з 1959 года, 100-годдзе якога адзначаецца сёлета.*

*Іван Сіняўскі нарадзіўся паблізу Жодзіна ў вёсцы Жажэлка, скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1941), змагаўся з фашыстамі ў партызанах, служыў у Савецкай Арміі, вызваляў Варшаву і штурмаваў Берлін. Быў узнагароджаны ордэнамі Славы III ступені, Айчыннай вайны II ступені, а таксама медалямі.*

*Ён працаваў дырэктарам і настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў школах, шмат гадоў жыў у Жодзіне, актыўна супрацоўнічаў як журналіст з газетай «Беларускі аўтазаводзец».*

*Пяру Івана Сіняўскага належаць восем кніг прозы, раманы «Дарога на Замлынне», «Вярыгі», а таксама аповесць «На правым флангу» (1964) пра Героя Савецкага Саюза Пятра Купрыянава.*

*Вельмі спадзяёмся, што Вы ўлічыце наш зварот і неўзабаве ў Жодзіне з'явіцца адметная, непаўторная вуліца Вашага земляка і знакамітага беларускага пісьменніка, а сетка публічных бібліятэк атрымае яго імя».*

Падобны ліст на імя жодзінскіх чыноўнікаў быў і ад Беларускай асацыяцыі журналістаў.

І вось адказы. *«У дадзены момант у г.Жодзіна няма новых вуліц, якім трэба прысвойваць найменне. Пры развіцці новых жылых мікрараёнаў горада і з'яўленні новых вуліц Вашы прапановы будуць унесены ў камісію па разглядзе пытанняў па называнні і пераназыванні складовых частак і аб'ектаў транспартнай інфраструктуры горада Жодзіна, створанай пры Жодзінскім гарадскім Савеце дэпутатаў,* – піша старшыня гарсавета **Наталля Сушко**. *– Па пытанні прысваення дзяржаўнай установе культуры «Цэнтральная гарадская бібліятэка г.Жодзіна» імя І.Сіняўскага на падставе інфармацыі, прадастаўленай аддзелам ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Жодзінскага гарадскога выканаўчага камітэта, аб'ектыўных падстаў па прысваенні дзяржаўнай установе культуры «Цэнтральная гарадская бібліятэка г.Жодзіна» імя І.Сіняўскага ў Вашым звароце не маецца».*

Як бачыце, *на падставе інфармацыі ідэолагаў* аб'ектыўных падстаў не маецца!

Менш груваскі, але аналагічны па змесце ліст падпісаў і першы намеснік старшыні гарвыканкама, гісторык паводле адукацыі **Сяргей Конан**.

Хацелася б ведаць, дзе чэрпала сваю інфармацыю ідэалагіня **Ірына Карповіч** і што не задавальняе яе ў асобе Івана Сіняўскага. Можа, тое, што ён выжыў у партызанах і на франтах, што яму пашчасціла вярнуцца дахаты жывым? Можа, тое, што адмовіўся ўступаць у кампартыю? Можа, тое, што напісаў пабеларуску праўдзівы і жорсткі раман пра калектывізацыю на Смалявіччыне? Ці, магчыма, тое, што прасілі, хадайнічалі за яго не тыя людзі і не тыя арганізацыі?

І дзе, урэшце, логіка – прысвоіць бібліятэцы імя І.Сіняўскага «няма важкіх падстаў», а наконт вуліцы можна будзе падумаць?

Непрыемна здзіўляе, што не пажадала ўшанаваць І.Сіняўскага і загадчыца бібліятэкі **Інеса Дзясятава**, колішняя вучаніца гісторыка Алеся Каралёва, брата незабыўнага Міхася Ткачова. Мабыць, дужа занята яна «патрыятычным» выхаваннем: ладзіць выставы кшталту прысвечанай расійскаму імператару Мікалаю II. Дзе ўжо ёй звяртаць увагу на земляка, на пісьменніка-франтавіка, які, дарэчы, нарадзіўся 22 чэрвеня, у трагічны дзень беларускай гісторыі!

Між тым зусім нядаўна ў горадзе праспект Дзяржынскага атрымаў імя Сыракваша, аднаго з былых дырэктараў БелАЗа. Ёсць на Беларусі і вельмі цікавы прэцэдэнт: у вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна імя пісьменніка Віктара Гардзея прыжыццёва, да яго 50-годдзя, было нададзена вуліцы, на якой ён нарадзіўся і жыў!

Мімаволі мацуецца ўражанне, што жодзінскія чыноўнікі баяцца праяўляць ініцыятыву, а пра ветэранаў згадваюць толькі тады, калі гэта ім выгадна, прыкрываюцца былымі франтавікамі, нібыта жывым шчытом, асабліва падчас ідэалагічна вывераных прасавецкіх дат.

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**

ХОЧУ РАССКАЗАТЬ…

## Благородный поступок

Будучи недавно на малой родине, приятно удивился.

В нашей небольшой деревушке, расположенной на трассе Светиловичи–Чечерск, что в Ветковском районе, отселенной в связи с катастрофой на Чернобыльской АЭС, осталось четыре или пять заброшенных колодцев. Верхние железобетонные кольца кто-то снял, а остальные – по-прежнему в глубине. Такой неиспользуемый, заброшенный колодец представляет огромную опасность для людей и животных. Попади случайно в него – явная смерть. Недавно прочел где-то, что исчез человек, ехавший на своей автомашине. Автомобиль был обнаружен стоящим у обочины, а человек исчез. Как позже выяснилось, он попал именно в такой раскуроченный колодец.

Хорошо, что в нашей (уже бывшей) деревне нашелся неравнодушный благородный человек – **Михаил Дмитриевич Езерский**. Он работает шофером в Светиловичах, там же и живет. Так вот он насобирал автомобильных покрышек и забросал ими заброшенные колодцы, а сверху установил торчмя большую использованную покрышку от заднего колеса трактора «Беларус» так, что половина ее возвышается над поверхностью колодца. И сделал белилами надпись «КОЛОДЕЦ». Такая надпись привлекает внимание прохожих и проезжающих и не позволит случиться беде.

От земляков и всех неравнодушных людей хочу выразить огромную благодарность Михаилу Дмитриевичу за проявленную инициативу по предупреждению несчастных случаев. Жаль, не оказалось в нужный момент фотоаппарата, чтобы зафиксировать этот пример. Хотя экологическая служба должна бы заметить и восполнить этот пробел.

С уважением –

**Петр Тимофеевич ИВАНЬКОВ, уроженец Ветковского района, подписчик «Народной Воли» со дня ее основания.**

ЗАЧАПІЛА!

## Як «Мінтранс» разводзіць «зайцоў»

У адзін з дзён доўгіх майскіх святаў я чакаў тралейбус на прыпынку грамадскага транспарту «Паліклініка №28», што ў сталічным мікрараёне «Уручча-6». На прыпынку не было ні кіёска «Белсаюздруку», ні спецыялізаванага шапіка «Мінсктрансу». Падрыхтаваў дробязь, каб набыць талон у вадзіцеля, – 65 капеек, без рэшты.

Паводле новых правілаў, уведзеных восенню мінулага года, я як пасажыр, які не мае квітка, абавязаны ўваходзіць у транспартны сродак толькі праз пярэднія дзверы. Так я і зрабіў бы, каб не дзевяць чалавек, якія зайшлі туды да мяне. Месца на вузкай пярэдняй пляцоўцы не засталося – яе занялі мамы з малымі дзецьмі і жанчыны сталага веку. Прыйшлося зайсці ў сярэднія дзверы. Намаганні праціснуцца бліжэй да кабіны кіроўцы плёну не мелі – у тралейбусе было даволі поўна. І не паспеў я перадаць грошы, як за спінай прагучала: «Мужчына, ваш талончык!»

Мае тлумачэнні і дэманстрацыя прыгатаванай у руцэ дробязі жанчыну ў сіняй камізэльцы кантралёра «Мінсктрансу» не ўразілі, і яна манатонна завяла завучаны тэкст: «Вы здзейснілі правапарушэнне, яно зафіксавана на відэа…» Але яе маналог перабілі іншыя пасажыры, якія заходзілі на прыпынку разам са мной і якім пагражала стаць такімі ж «зайцамі»: яны засведчылі, дзе і як я сядаў. Грамадой удалося адбіцца, і да наступнага прыпынку ўсе вымушаныя безбілетнікі пад вэрхал супрацоўнікаў кантрольнай службы набылі білеты ў вадзіцеля.

Пасля гэтай гісторыі я зрабіў выснову, што той, хто пісаў новыя правілы для пасажыраў, не ездзіў у грамадскім транспарце ў выхадныя ці святочныя дні. Таму прапаную: трэба альбо перагледзець правілы праезду пасажыраў і прыбраць з іх недарэчныя патрабаванні, альбо ўсталяваць спецыялізаваныя шапікі на кожным прыпынку.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДЫСКУСІЯ

# Нацыянальная ідэя як арыенцір развіцця беларускага грамадства

Нехта з разумных людзей выказаў меркаванне, што ў жыцці кожнага чалавека ўсё вызначае мэта. Слушныя словы, якія можна аднесці і да асобных людзей, і ўвогуле да дзяржавы. Толькі называць гэта ўжо лепш не мэтай, а нацыянальнай ідэяй. Менавіта яна павінна ўтрымліваць галоўнае – да чаго, да якіх вышынь імкнуцца грамадства, краіна, дзяржава. Мэта – гэта галоўны арыенцір нацыі.

«Народная Воля» не аднойчы на сваіх старонках звярталася да гэтай праблемы. Дастаткова нагадаць артыкулы Івана Яфіменкі «Беларуская нацыянальная ідэя – умова прагрэсу і мірнай будучыні», Анатоля Ляўковіча «О национальной идее и белорусской государственной идеологии» і іншыя. Прапаноў многа, але да адзінага варыянта нацыянальнай ідэі беларусы пакуль не прыйшлі. Тэарэтычныя падыходы, на мой погляд, далёкія ад рэальнага жыцця. Я маю на ўвазе распрацоўкі «прыдворных» навукоўцаў, якія здолелі ў лепшым выпадку «ўзброіць» студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў такім дапаможнікам, як «Ідэалогія беларускай дзяржавы».

Амаль 30 гадоў незалежнага развіцця Беларусі паказваюць, што краіна так і не акрэсліла той бераг, да якога хоча плыць. Адразу было імкненне да стварэння не зусім зразумелай саюзнай дзяржавы, затым пачалася гульня ў глыбокую інтэграцыю з Расіяй. Сёння гучаць разважанні аб рознасці паняццяў «суверэнітэт» і «незалежнасць», аб тым, што незалежнасць – гэта святое. Такое флюгерства не можа прывесці ні да чога станоўчага. Пара ўсвядоміць, што як сям'я застаецца галоўнай ячэйкай грамадства, так і дзяржава была і будзе асноўным элементам на палітычнай карце свету. Ніякія працэсы глабалізацыі не адменяць факт існавання дзяржаў. Гэта можа зрабіць толькі глабальная катастрофа накшталт сусветнай вайны ці гібель дзяржаў у выніку маральнага іх разлажэння ці фізічнага знікнення.

Таму памылковымі трэба лічыць крокі ўлад Беларусі, якія не набліжалі, а аддалялі нас ад разумення каштоўнасці нацыянальнага будаўніцтва. Я маю на ўвазе сумна вядомы рэферэндум 1996 года. Якімі павінны былі быць гэтыя крокі – тэма асобнага артыкула, ды і ўжо не аднойчы гучалі слушныя разважанні нацыянальна свядомых грамадзян Беларусі, у тым ліку на старонках «Народнай Волі». Толькі, на жаль, слова «свядомыя» з вуснаў вядучых палітыкаў краіны падавалася як абраза тых, хто на самай справе бачыў, якой павінна быць Беларусь. Ды і мінулае мала чаму навучыла. Нават не ўсе гісторыкі ўсвядомілі той вопыт і разуменне нацыянальнай ідэі, якія звязаны са славутымі імёнамі Бацькаўшчыны: Я.Купалам, Я.Коласам, К.Каліноўскім, Л.Геніюш і многімі іншымі.

Нялішнім, мяркую, было б паглядзець, кажучы сучаснай мовай, на замежны вопыт. Зразумела, што ў кожнай краіне можа быць свой набор найважнейшых элементаў нацыянальнай ідэі, аднак і нешта агульнае нельга выключаць. Напрыклад, дзве з паловай тысячы гадоў таму ў Канфуцыя запыталіся: што неабходна для таго, каб краіна квітнела? Ён адказаў: патрэбны тры рэчы – шмат хлеба, моцнае войска і наяўнасць разумных людзей (кажучы па-руску, «надлежащее состояние умов»). А на пытанне, чым можна ахвяраваць у выпадку крайняй неабходнасці, адказ быў такі: арміяй, нават хлебам, але ні ў якім разе не станам розуму. Як бачна, прасочваецца пэўная сувязь паміж адказамі Канфуцыя і меркаваннямі тых грамадзян Беларусі, якія ўжо даўно выказваюцца за яе нейтралітэт. Нельга не пагадзіцца з ранейшымі меркаваннямі аўтараў «Народнай Волі» адносна імкнення да нейтралітэту, які сапраўды адпавядае менталітэту беларускага народа, яго нацыянальным інтарэсам і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Адзінае, на што хочацца звярнуць увагу, дык гэта на немагчымасць набыць статус нейтральнай дзяржавы пры сённяшняй палітыцы кіраўніцтва краіны. Вельмі шмат за апошнія гады зроблена крокаў, якія не набліжалі Беларусь да групы нейтральных краін, а аддалялі яе. Ды і не той менталітэт у тых, хто сёння пры ўладзе.

Але не будзем забывацца, што вечных кіраўнікоў не бывае, а імкненне дасягнуць лепшай будучыні ў грамадстве застаецца пастаянным.

Калі галоўным чыннікам нацыянальнай ідэі зрабіць нейтралітэт краіны, то, вядома ж, нам трэба многае мяняць у тактыцы як палітычнага, так і эканамічнага характару. У першую чаргу неабходна ўмацоўваць патэнцыял народнагаспадарчага сектара. І тут я хачу падкрэсліць, што дэпутатам Нацыянальнага сходу карысна было б прыслухацца да думкі старажытнага філосафа наконт размеркавання расходнай часткі дзяржаўнага бюджэту: прыярытэтнымі павінны быць далёка не выдаткі на ўтрыманне сілавых структур. Мы з'яўляемся, як запісана ў Асноўным законе, не паліцэйскай, а дэмакратычнай, сацыяльнай прававой дзяржавай. У сувязі з гэтым, памятаючы словы Канфуцыя, трэба найперш праяўляць клопат пра адукацыю і інтэлект народа. Неяк дзіўна ў XXI стагоддзі сутыкацца з тым, што чалавек з міліцэйскімі пагонамі і дручком у руках матэрыяльна забяспечаны на парадак лепш за таго работніка адукацыі і культуры, у руках якога будучыня краіны.

Не менш цікавым выглядае адказ канцлера Германіі Бісмарка на пытанне аб тым, што неабходна для станаўлення дзяржавы. Ён казаў пра тры чыннікі: 1) пра ідэю, якая аб'ядноўвае большасць людзей, 2) давер да ўрада, 3) наяўнасць сярэдняга класа. Праводзячы паралель з сучаснай Беларуссю, можна сцвярджаць, што ўсе яны па вялікім рахунку таксама адсутнічаюць.

Глыбока перакананы ў тым, што самым галоўным, ці дамінуючым, элементам нацыянальнай ідэі Беларусі павінен быць чалавек, яго свабода, дабрабыт, а не дзяржава і ўсё, што з ёю звязана. Наша сённяшняя рэчаіснасць, на жаль, больш нагадвае вядомае выслоўе Людовіка XIV «Дзяржава – гэта я». Дэпапуляцыя, якая цягнецца ўжо не адно дзесяцігоддзе, і пагаршэнне здароўя насельніцтва прымушаюць казаць пра неабходнасць тэрміновага ратавання нацыі. Інакш станем такімі малакольскаснымі, як маленькія па плошчы Мальта, Швейцарыя і Аўстрыя. Хаця падобнымі на іх хочацца быць у іншым – ва ўзроўні жыцця насельніцтва і дзяржаўным нейтралітэце. Каб змяніць сітуацыю да лепшага, адных заклікаў прэзідэнта недастаткова. Ды і лічу памылковым падыход, калі асноўныя намаганні ў аздараўленні нацыі скіраваны на развіццё вялікага спорту, а не на масавую фізкультуру. Шматлікія спартыўныя перамогі могуць дазволіць сабе багатыя і вялікія па колькасці насельніцтва краіны, да якіх Беларусь не адносіцца. Цешыць сваё самалюбства лепш перамогамі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы.

Дапамагчы ў ратаванні нацыі могуць і павінны ўсе рэлігійныя канфесіі, якія прадстаўлены ў Беларусі. Ахоплівае жах, калі чуеш аб тым, што колькасць ненароджаных немаўлят у выніку спынення цяжарнасці жанчынамі Беларусі за ўсю гісторыю афіцыйнай рэгістрацыі складае прыкладна сённяшнюю колькасць яе насельніцтва. Не пра аддзяленне царквы ад дзяржавы тут трэба дбаць, а пра аб'яднанне намаганняў і ратаванне нацыі.

Аднак не толькі фізічны бок я маю на ўвазе. Духоўная дэградацыя грамадства патрабуе ад усіх здаровых сіл і інстытутаў дзяржавы кардынальных крокаў. Мне цяжка нешта прапанаваць, але я бачу, што сапраўднага Божага страху ў тых асоб, якія здзяйсняюць злачынствы, няма. А калі яго няма, дык усё дазволена (паводле Ф.Дастаеўскага). Таму спадзяванні ў духоўным ратаванні толькі на школу і іншыя дзяржаўныя ўстановы, на маю думку, марныя.

Зыходзячы з усяго сказанага, лічу што на сённяшніх штандарах Беларусі галоўнымі словамі павінны быць Вера ў Бога, Незалежнасць, Нейтралітэт і Чалавек. Яны разам могуць стаць жыццёвым арыенцірам для ўсіх і для кожнага паасобку.

**Вячаслаў САСНОЎСКІ, кандыдат геаграфічных навук.**
*г.п.Смілавічы.*

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Акции против ультраправых




Десятки тысяч противников ультраправых организаций и евроскептиков приняли участие в акциях протеста в Германии. Только в Кёльне на демонстрацию вышли, по оценкам полиции, более 14 тысяч человек. Организаторы заявляют о 45 тысячах участников. Аналогичные акции прошли в Берлине, Франкфурте, Гамбурге и Мюнхене.

Акции в Германии стали частью кампании против ультраправых сил, которая в эти выходные охватила сразу несколько европейских стран. Такие митинги и шествия проходили в Польше, Румынии, Хорватии и Австрии. Одна из заявленных задач этих выступлений – в преддверии европейских выборов обратить внимание жителей Европы на угрозу, которую, по мнению организаторов, представляют евроскептики и ультраправые партии.

# Берлин поддержал сохранение членства России в Совете Европы

На юбилейной встрече министров иностранных дел стран-членов Совета Европы в Хельсинки 17 мая достигнут компромисс, позволяющий вернуть российской делегации право голоса в Парламентской ассамблее этой организации (ПАСЕ), которого она была лишена в наказание за аннексию Крыма.

В ответ Россия несколько лет назад перестала платить членские взносы, что могло уже в июне этого года привести к ее формальному – за долги – исключению из Совета Европы, на чем настаивали некоторые члены этой организации, в частности Грузия и Украина. Германия и целый ряд других государств были против такой меры.

Глава МИД Германии Хайко Мас объяснил, почему Германия поддержала Россию. Он сказал, что дело не столько в тех 60 миллионах евро, которые Россия задолжала Совету Европы. Сумма небольшая, и ее легко могли бы компенсировать другие доноры. Главное, на что обратил внимание Мас, – это возможность для 820 миллионов жителей 47 стран-членов этой организации обращаться с жалобами и в Европейский суд по правам человека (ЕСПЧ). *«Мы хотим*, – пояснил Мас в интервью DW, – *чтобы такая возможность оставалась и у граждан России».*

# Зеленый свет для электросамокатов

Кататься на электросамокатах в Германии можно, но только по велодорожкам, а там, где их нет, – по проезжей части. Такое решение на днях приняла верхняя палата немецкого парламента, прислушавшись к протестам пешеходов. Бундесрат также повысил минимальный возраст для управления этим транспортным средством с 12 до 14 лет.


© picture-alliance/dpa/N. Armer

Хотя для окончательного принятия правил езды на электросамокатах требуется еще постановление правительства, решение бундесрата означает однозначную победу пешеходного лобби, одним из представителей которого является Союз защиты прав пешеходов (Fuss e.V.) Их действия продиктованы тем, что именно пешеходы считаются главной группой риска среди всех участников движения. По всей Германии в 2018 году жертвами ДТП стали 457 пешеходов.

УКРАИНА

# Владимир ЗЕЛЕНСКИЙ: «Я – не икона...»

*20 мая состоялась инаугурация шестого президента Украины Владимира Александровича Зеленского*

Произошло событие, которого с радостью ждал украинский народ (по крайней мере, большая его часть) и с нервной улыбкой – правящая украинская элита.

Церемония инаугурации была назначена на понедельник. Рабочий день. Вероятно, аппарат Верховной Рады, от которого зависело назначение даты, рассчитывал, что здание украинского парламента будет окружать меньшее количество сторонников Зеленского, чем в выходной. Однако и собравшихся, радостные лица которых время от времени показывали ведущие прямую телетрансляцию камеры, явно хватало, чтобы обеспечить необходимое давление.



Церемонию вел спикер парламента Андрий Парубий, один из активных участников и организаторов «Революции Достоинства» 2014 года. В зале заседаний Рады присутствовали высокие иностранные гости и четверо из пяти бывших глав украинского государства – экс-президенты Леонид Кравчук, Леонид Кучма, Виктор Ющенко и Петр Порошенко. Улыбка последнего, как могло показаться, была несколько нервной: за два дня до инаугурации на сайте Административного суда Киева появилась информация о рассмотрении иска не названного по имени заявителя к МВД и Национальной полиции по поводу непринятия должных мер по борьбе с коррупцией. Если суд удовлетворит требование заявителя, то бывший президент, члены правительства и депутаты Верховной Рады станут невыездными из Украины по крайней мере на год.

Явно не добавляло оптимизма «постмайданным» элитам и то, что в Украину начали возвращаться те, кто имел все основания считаться их врагами. Возвращение олигарха Игоря Коломойского, о котором говорят как о главном спонсоре предвыборной кампании Зеленского, было предрешено и никого не удивило. Но следующим – и тоже еще до инаугурации – вернулся бывший первый заместитель главы Администрации Виктора Януковича Андрий Портнов – опытный юрист, фактически контролировавший всю судебную систему. Уже первые данные им комментарии свидетельствовали о том, что многие сторонники Януковича будут использовать новую ситуацию в стране для пересмотра старых судебных решений.

Владимир Зеленский явно волновался. Даже умение артиста держаться и скрывать свои эмоции под маской не помогали. Сказывалась торжественность момента.

Собравшиеся ожидали послеинаугурационного обращения нового главы государства к народу. Обычно в таких случаях обращение содержало некоторую абстрактную программу действий, общие политические декларации. Но Владимир Зеленский был вполне конкретен. Приведем лишь некоторые тезисы его речи.

– С сегодняшнего дня каждый из нас несет ответственность за Украину, которую мы оставляем своим детям. Каждый из нас погиб на Донбассе, каждый день мы теряем каждого из нас. Каждый из нас – переселенец, заробитчанин... Но мы все это преодолеем, ведь мы все украинцы. Не существует больших или меньших. Каждый из нас – украинец. От Ужгорода до Луганска, от Чернигова до Симферополя, во Львове, Харькове, в Донецке, Днипре и Одессе. Мы должны быть едины, ведь только тогда мы сильны, – заявил шестой президент Украины.

Он также призвал всех украинцев, находящихся за пределами страны, возвращаться на родину.

– Нам нужны ваши знания, ваш опыт, ваша ментальность, – обратился Зеленский к украинцам, живущим за пределами страны.

Президент объявил также о роспуске Верховной Рады, однако обратил внимание на то, что роспуск не означает немедленного прекращения работы парламентариев:

– У вас есть два месяца, чтобы принять законы о снятии депутатской неприкосновенности, об уголовной ответственности за незаконное обогащение, принять многострадальный Избирательный кодекс.

Напомним, что именно эти законы обещала принять Верховная Рада, но тем не менее они не приняты до сих пор. Причем Избирательный кодекс оказался в перечне приоритетных далеко не случайно: речь идет о прозрачности предвыборных списков, что с учетом возможного снятия депутатской неприкосновенности гарантировало бы очищение нового состава Рады от нарушителей закона, скрытых и явных.

Владимир Зеленский предложил также правительству вооружиться ручками, положить перед собой листки бумаги и написать заявления об отставке. Камера в этот момент выхватила ироничную улыбку премьер-министра Владимира Гройсмана: Украина – парламентско-президентская республика, и правительство формируется Верховной Радой.

Президент объявил также о готовности вступить в переговорный процесс по Донбассу, но лишь после того, как будут возвращены все украинские военнопленные.

И, вероятно, самым отрепетированным – и самым искренним – моментом были слова о том, как Владимир Зеленский воспринимает самого себя. Он призвал чиновников не украшать свои рабочие кабинеты портретом нового главы государства.

– Я – не икона, – заявил Владимир Александрович. – Повесьте лучше портреты своих детей и прежде, чем принять решение, посмотрите им в глаза.

Не известно, поможет ли эта мера разбудить в чиновниках совесть и сделать их более патриотичными. Но в искренность шестого президента Украины в этот момент хотелось верить. Ибо он – действительно не икона, а человек со свойственной каждому из нас способностью ошибаться и желанием изменить мир к лучшему.

Удастся ли?

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

СКАНДАЛ

# Россиянка рассорила правящую коалицию Австрии?

«Партия Свободы» разрушила саму себя, теперь ее бывшему лидеру Хайнцу-Кристиану Штрахе грозит уголовное преследование», – заявил канцлер Австрии Себастьян Курц.

Несколько дней назад в стране разгорелся коррупционный скандал. Немецкие СМИ опубликовали видео, на котором Штрахе и его помощник ведут переговоры с неизвестной женщиной – по данным некоторых СМИ, она называла себя племянницей некоего российского олигарха. Кадры были сняты в 2017 году за несколько месяцев до парламентских выборов. Штрахе пообещал, что предоставит этой женщине доступ к госконтрактам. В обмен политик рассчитывал на то, что его партия получит деньги на предвыборную кампанию.

Штрахе заявил, что видео – это попытка политического убийства и что слова были вырваны из контекста. Свои действия уже бывший вице-канцлер назвал глупыми и безответственными и заявил, что уходит в отставку, чтобы больше не причинять вреда правительству.

Спасать партию теперь предстоит Норберту Хоферу, который занимает пост министра транспорта. Действия Штрахе он назвал непростительными. Но при этом Хофер подчеркнул, что австрийские крайние правые должны остаться у власти.

Скандал привел к развалу правящей коалиции. «Народная партия» Себастьяна Курца заявила, что больше не намерена сотрудничать в правительстве с «Партией свободы». Сам канцлер назвал это видео личным оскорблением: *«Я сегодня предложил федеральному президенту, чтобы в Австрии были проведены досрочные выборы и чтобы сделано это было как можно скорее».*



ЛИКБЕЗ

# Европейский парламент: как это устроено

23–26 мая состоятся общеевропейские выборы, в ходе которых все граждане ЕС, достигшие совершеннолетия, выберут, кто будет представлять их страну в Европарламенте. Предлагаем разобраться, что такое Европейский парламент и как он функционирует.


© picture-alliance/Mobiliti/j. Agency

### Что такое Европарламент?

Это уникальный законодательный орган власти, аналогов которому в мире, пожалуй, больше нет. Необычность его заключается в многонациональности и многоязычии. Депутаты из 28 стран, которые выбираются прямым голосованием граждан, говорят на 24 языках и пытаются найти общий язык, принимая общие законы.

**Основная функция Европарламента – законодательная**, и ее он делит с Советом ЕС. Законопроекты не выносятся на рассмотрение самим парламентом, а только рассматриваются и утверждаются им. **Вторая важная функция парламента – надзорная**: он осуществляет демократический контроль над деятельностью всех учреждений ЕС. **И последняя, но не менее важная, функция Европарламента – бюджетная**: депутаты утверждают бюджет Европейского Союза и следят за его исполнением.

### Как выбирают Европарламент?

Выборы в Европейский парламент проходят раз в пять лет. Дважды за этот срок, но уже без участия граждан, избирается председатель парламента.

Путем прямого голосования граждане ЕС влияют на состав парламента – а значит, и на весь политический курс Евросоюза.

Голосование на выборах в Европарламент в странах ЕС проходит на одной неделе, но в разные дни – в разных странах ЕС. В некоторых регионах европейские выборы совмещают по дате с выборами в местные органы власти. Подсчетом голосов занимаются страны, а не единый центральный орган. Участие в выборах не является обязательным в большинстве стран ЕС, но в некоторых государствах (Бельгии, Люксембурге, Кипре и Греции) граждане обязаны сходить на избирательный участок и проголосовать.

### Где находится Европарламент?

Европарламент работает в трех городах. Во-первых, в Страсбурге – официальном месте заседаний, где проходят 12 пленарных сессий в год. Во-вторых, в Брюсселе, где проходят особые сессии, а также заседания комитетов. В-третьих, в Люксембурге, где расположены административные структуры парламента.

### Много ли человек в Европарламенте?

751 депутат Европарламента представляет интересы почти 513 миллионов европейцев (после возможного выхода Великобритании из ЕС депутатов может остаться 705).

Количество мест, которые получает каждая страна в Европарламенте, прямо пропорционально размеру ее населения (при этом мест должно быть не меньше 6 и не больше 96).

На сегодняшний день больше всего депутатов представлено от крупнейшего по численности государства, Германии, – 96. Меньше всего мест отведено странам с небольшим населением: Мальте, Кипру, Люксембургу и Эстонии – всего по 6 депутатов от каждой. При этом чем страна меньше, тем больше мест она получает на душу населения.

Кроме депутатов в Европарламенте работает около 7500 человек. Это переводчики, секретари, помощники, стажеры, технический персонал и прочие сотрудники.

Работа Европейского парламента обходится жителю ЕС в 3,5 евро в год. Для сравнения: «стоимость» годовой работы Бундестага – 9,2 евро на каждого жителя Германии, Палаты общин Великобритании – 8,9 евро на британца, Национального собрания Франции – 8 евро.

### Какие политические силы представляют депутаты?

В Европарламенте депутаты объединяются в политические группы (фракции), а не по национальной принадлежности. Всего таких групп на данный момент восемь. Главное требование – чтобы в составе фракции было как минимум 25 депутатов из семи стран Евросоюза.

Старейших политических сил в Европарламенте три. Это группы демократов, либералов и социалистов. Европейские консерваторы и реформисты – еще одна крупная фракция. Оставшиеся места в парламенте поделены между левыми, «зелеными», представителями других политических взглядов, а также независимыми депутатами.

Кроме комитетов в Европарламенте есть 44 делегации. Они отвечают за развитие международных связей Европейского парламента и продвижение ценностей ЕС в мире.

В этом году попасть в Европарламент нацелены бывший премьер-министр Италии Сильвио Берлускони, который занимает высокое место в партийном списке партии Forza Italia (принадлежит к семье Европейской народной партии), и лидер французского «Национального объединения» Марин Ле Пен. В состав Европарламента, скорее всего, войдет Кайо Жулио Сезаре Муссолини, правнук фашистского диктатора, который ныне возглавляет праворадикальную партию «Братья Италии».

СПАДЧЫНА

# Навошта зносіць тое, чаго ніколі больш не пабудуюць?

*У старым Гродне на вуліцы Міцкевіча (раён «Новы свет») улады запланавалі знос старых драўляных дамоў, якім трохі больш за сто гадоў. Яны ўжо выстаўлены на аўкцыён.*

*Многія гродзенцы, у тым ліку гісторыкі, лічаць, што горад страціць непаўторныя архітэктурныя будынкі, якія варта было б аднавіць, а не зносіць, паколькі падобных ужо ніколі ў старым горадзе не пабудуюць. Сярод жыхароў Гродна ёсць жадаючыя заняцца іх адбудовай, але да іх меркавання, на жаль, пакуль ніхто не прыслухоўваецца.*

## «Каштоўнасць іх гістарычная...»

З'явілася інфармацыя, што дамы №№5, 7, 7а і 9 па вуліцы Міцкевіча будуць знесены дзеля новай забудовы.

Сапраўды, стан іх выклікае пытанні – відаць, што старыя драўляныя дамы з рэшткамі мастацкай разьбы і іншай аздобы ніхто не даглядаў. З таго часу, як не стала іх гаспадароў, а гэта канец 30-х гадоў мінулага стагоддзя, дамы паступова заняпалі.

Пасля вайны тут пасялілі тых, у каго была вострая патрэба ў жыллі. А новы гаспадар – ЖЭС – асаблівай увагі старым хацінам, пабудаваным з бярвення, ніколі не надаваў.



На думку гродзенскага гісторыка **Мечыслава Супрона**, які актыўна займаецца аховай гістарычнай спадчыны Гродна, цяперашнім гродзенскім уладам не баліць, што абласны цэнтр страціць унікальную забудову XIX–XX стагоддзяў, а на яе месцы паўстануць невыразныя бетонныя каробкі.

*«Каштоўнасць гэтых дамоў у тым, што яны могуць стаць турыстычнымі аб'ектамі, культурнымі цэнтрамі альбо хостэламі для турыстаў*, – перакананы гісторык. – *Падобных будынкаў мала захавалася ў еўрапейскіх гарадах*».

## Абяцалі, што дамы набудуць новае жыццё, аднак...

Месяц таму Мечыслав Супрон быў на прыёме ў старшыні гарвыканкама, і яму паабяцалі: гэтыя дамы набудуць новае жыццё. І вось сюрпрыз – іх выставілі на аўкцыён пад знос.

*«Уладам карціць хутчэй атрымаць грошы ў бюджэт*, – з жалем заўважае гісторык. – *Ну заробяць яны цяпер гэтыя капейкі за надзелы ў старым горадзе, але нават і блізка не ўяўляюць, колькі страціць горад у будучым ад таго, што так бяздарна прадалі кавалак гісторыі горада*».

М.Супрон кажа, што гродзенскім уладам варта было б наведаць нямецкі Патсдам, каб паглядзець, як там захоўваецца калонія драўляных дамоў, збудаваных у 20-я гады XIX стагоддзя прускімі вайскоўцамі. Нікому і ў галаву не прыходзіць іх знесці, яны прыцягваюць турыстаў, у адным дзейнічае музей.

Гісторык кінуў кліч у сацыяльных сетках, каб людзі пісалі лісты да гродзенскіх улад з патрабаваннем захаваць старадаўнія будынкі па вуліцы Міцкевіча. Многія адгукнуліся на такую прапанову...

## Пазіцыя ўлад

Выконваючая абавязкі галоўнага архітэктара Гродна **Вольга Барэйка** на занепакоенасць гродзенцаў станам дамоў адказала «Народнай Волі» проста: «*Хочаце ўратаваць – удзельнічайце ў аўкцыёне, набывайце і потым рэстаўрыруйце*».

Пазіцыя выканкама, патлумачыла спадарыня Барэйка, такая: калі УЖРЭП не можа ўтрымліваць забудову ў адпаведным стане для пражывання людзей, то трэба прадаставіць магчымасць тым, хто гэта можа зрабіць.

«*А ў далейшым усё будзе залежаць ад новага ўласніка*, – кажа чыноўніца. – *Праектная дакументацыя павінна прайсці ўзгадненні, і, паколькі дамы знаходзяцца на тэрыторыі гістарычнага цэнтра, яна будзе распрацоўвацца ў тым ліку і на падставе дазволу Міністэрства культуры*».

Але ж ва ўмовах аўкцыёну няма абавязковага патрабавання аб захаванні і рэанімацыі гэтых дамоў.



**Дамы №№7 і 9 па вуліцы Міцкевіча ў Гродне, якія ўлады хочуць знесці.**

ДА ВЕДАМА

На плане Гродна вуліца Міцкевіча была пазначана ў 1882 годзе, хаця забудавана трохі раней. Сёння ад некалі ўнікальнага раёна захавалася ўсяго некалькі гістарычных пабудоў. Сярод іх дамы №№ 7 і 9, якія былі збудаваны ў стылі рускага мадэрну. Ужо пяць гадоў яны стаяць з забітымі вокнамі, у іх ніхто не жыве.

«*Такія ўмовы мы можам паставіць толькі для будынкаў, якія занесены ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі*, – падкрэсліла спадарыня Барэйка. – *А гэтыя ў дадзены спіс не ўваходзяць*».

## «Наша сям'я можа аднавіць гэты дом»

**Дзмітрый Пуцілоўскі** – карэнны гродзенец. Яго дзяцінства і юнацтва прайшлі ў старым Гродне. Ён вельмі любіць свой горад і, калі даведаўся пра знос дамоў па вуліцы Міцкевіча, разам з сям'ёй пайшоў паглядзець, што ж на самай справе збіраюцца прыбраць.

«*Ведаеце, сэрца шчыміць, калі глядзіш на гэтыя дамы. Наша гісторыя! А што будзе ўзамен? Будынкі з бетону?* – задаецца пытаннем Пуцілоўскі. – *А старыя дамкі, калі задацца мэтай, можна ж аднавіць і зрабіць цацачкамі. Калі спатрэбіцца, іх можна нават разабраць, адрэстаўрыраваць, а потым наноў скласці – і яны будуць радаваць людское вока*».

Самому Дзмітрыю і ягонай сям'і вельмі спадабаўся дом №9. Гродзенец упэўнены, што яны маглі б самі адрэстаўрыраваць будынак, калі б яго ім аддалі па разумным кошце. Можа, не надта хутка, але за некалькі гадоў такі дом яго сям'я магла б аднавіць. Купіць жа дом на тых умовах, на якіх выстаўляе яго на аўкцыён гарвыканкам, нерэальна.

«*Ва ўмовах аўкцыёну запісана, што дамы прадаюцца толькі пад знос. І, дарэчы, на знос будынкаў запланавана неймаверная сума – 465 тысяч рублёў*», – заўважае Пуцілоўскі.

## «Я прыехала ў Беларусь, каб пабачыць тое, чаго ў нас няма»

Спадар Дзмітрый кажа, што ў горадзе насамрэч ёсць асунутыя старыя халупы, якія варты таго, каб іх знеслі, але ніяк не можа змірыцца з тым, што аздобленыя мастацкай разьбой драўляныя дамы ў цэнтры старога Гродна падлягаюць разбурэнню. Ён бачыў у інтэрнэце, як аднаўляюцца такія дамы ў многіх гарадах Еўропы. Перакананы, што нават замежны грант пад гэта можна атрымаць.

«*Канешне, гэта робіцца не ў адзін дзень*, – кажа спадар Дзмітрый. – *Але трэба разумець, што падобных дамоў больш ніколі ў старым горадзе ніхто не пабудуе...*»

Нядаўна бязвізавы Гродна наведала турыстка з далёкага і экзатычнага Сінгапура. Дзяўчыну завялі ў «Новы свет», і яна пабачыла драўляныя дамы, якія гродзенскія ўлады вызначылі пад знос.

«*Ва ўсёй Еўропе такія пабудовы імкнуцца захаваць, а ў вас чамусьці наадварот*, – здзівілася грамадзянка Сінгапура спадарыня Джын. – *Калі мне захочацца пабачыць нейкія новыя гмахі, я магу гэта зрабіць і ў Сінгапуры. А ў Беларусь я прыехала ўбачыць тое, чаго ў нас няма. Гэта найбольш важна для гісторыі – паказаць, якім быў горад задоўга да нашага нараджэння*».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# «Мисс Беларусь – 2018» Мария Василевич станет телеведущей

*24 мая она дебютирует в проекте “Добрай раніцы, Беларусь!” на канале «Беларусь 1». Соведущий красавицы – Евгений Перлин.*

*“Программа «Добрай раніцы, Беларусь!” – мой первый опыт прямого эфира*, – рассказала Мария. – *Конечно, я стажировалась и, походив не на один эфир “Добрай раніцы”, посмотрев на всю кухню изнутри, понимаю, что профессия телеведущего не так проста, как кажется на первый взгляд. Я только начинаю свой путь и готова учиться и совершенствоваться, благо коллеги у меня чудесные и всегда поддерживают. Так что вперед, увидимся совсем скоро!*»



ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

# Оперная звезда, похоже, сама заинтригована



Наша оперная дива Надежда Кучер, обладательница уникального лирико-колоратурного сопрано, получившая в 2015 году титул «Певец мира» в рамках Международного конкурса оперных певцов «Би-Би-Си», смело выложила на свою страницу в «Фэйсбуке» фото, где она в «интересном положении», с озорной припиской: «Ну, и кто там?». Но так как, судя по всему, срок ее беременности уже большой, скоро мы узнаем, кто появился в семье певицы Кучер и дирижера Матвиенко, мальчик или девочка. В любом случае теперь в плотном гастрольном графике Надежды, который включает оперные сцены от Сантьяго до Парижа, 36-летней певице явно придется сделать перерыв.

Интересно, что Анна Нетребко тоже именно в 36 лет прервала карьеру ради материнства. Но вообще для современных певиц из элитарного эшелона – а Надежда Кучер, несомненно, входит в этот немногочисленный отряд – это шаг экстраординарный, и мало кто на него отваживается. Наверное, трудно остановиться, когда жизнь всецело и даже фанатично посвящена творчеству. Да и немного страшно потерять ангажементы, новые партии, внимание публики. А потом, глядишь, и время уже прошло... Например, не имеет детей оперная мегазвезда, румынское сопрано Анжела Георгиу: она удочерила племянницу, ставшую сиротой в раннем детстве. Крупнейшая певица XX века австралийка Джоан Сазерленд также не решилась на этот шаг. Как, впрочем, и великая Мария Каллас.

Но некоторые все-таки бросают вызов карьере и решаются на серьезную творческую паузу. Пока Надежда Кучер не распространяется о том, где она будет рожать (хотя квартиру в Минске она все-таки пару лет назад купила). Но так как ее муж Дмитрий Матвиенко, тоже, кстати, уроженец Минска, давно и довольно успешно делает карьеру в Москве, место постоянной дислокации матери и будущего ребенка, возможно, тоже изменится.

**Виктория ДРОЗД.**

ЧУЛІ?

# Дадатковай платы за рэлігійныя мерапрыемствы не будзе

Як вядома, 24 студзеня ўрад Беларусі прыняў пастанову №49 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку аплаты паслуг па ахове грамадскага парадку, якія аказваюць органы ўнутраных спраў, расходаў, звязаных з медыцынскім абслугоўваннем, прыбіраннем тэрыторыі пасля правядзення на ёй масавых мерапрыемстваў».

Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў у Беларусі звярнулася ў Саўмін з пытаннем, ці тычыцца гэтая пастанова таксама правядзення рэлігійных масавых мерапрыемстваў – працэсій, пілігрымак і іншых абрадаў і цырымоній з удзелам вернікаў.

І вось 20 мая Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў атрымала адказ міністра ўнутраных спраў **Ігара Шуневіча**.

У ім сказана, што дзеянне вышэйзгаданай пастановы не распаўсюджваецца на рэлігійныя мерапрыемствы.

У лісце ўдакладняецца, што гаворка ідзе пра ўсе рэлігійныя мерапрыемствы, якія адбываюцца ў культавых будынках, пабудовах і на тэрыторыях, якія да іх адносяцца, у іншых месцах, прадастаўленых рэлігійным арганізацыям для гэтых мэт, у месцах пілігрымак, на могілках, у крэматорыях або па рашэнні выканаўчых і распарадчых органаў улады.

На думку міністра, такім чынам заканадаўчымі актамі ў дастатковай ступені створаны ўмовы для арганізацыі і правядзення разнастайных рэлігійных мерапрыемстваў.

ДА ВЕДАМА

# Колькі каштуе паглядзець Еўрапейскія гульні?

*Самыя дарагія квіткі – на цырымонію адкрыцця спаборніцтваў.*

Нагадаем, што II Еўрапейскія гульні пройдуць у Мінску з 21 па 30 чэрвеня. На іх адкрыццё білеты каштуюць ад 150 да 300 рублёў, на закрыццё – 70–150 рублёў.

Для балельшчыкаў найбольш дарагімі будуць пляжны футбол (25–35 рублёў за квіток), спартыўная аэробіка, скачкі на батуце, мастацкая гімнастыка і спартыўная акрабатыка (20–30), а таксама дзюдо (17–35 рублёў).

Найбольш танныя квіткі на спаборніцтвы па боксе і барацьбе (7–12), бадмінтоне (7–10), каратэ і самба (5–10 рублёў).

**Віктар ШПАК.**

ФУТБОЛ

# Мінскае «Дынама» забуксавала

*Прайшлі матчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Мінск» – 3:3, «Нёман» (Гродна) – БАТЭ (Барысаў) – 0:1, «Гарадзея» – «Славія» (Мазыр) – 1:0, «Іслач» (Мінскі раён) – «Віцебск» – 3:0, «Гомель» – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 2:3, «Шахцёр» (Салігорск) – «Дынама» (Мінск) – 3:0, «Тарпеда» (Мінск) – «Дынама» (Брэст) – 0:1.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 8 | 6 | 2 | 0 | 14–4 | 20 |
| Іслач | 8 | 6 | 0 | 2 | 14–5 | 18 |
| Шахцёр | 8 | 6 | 0 | 2 | 13–5 | 18 |
| БАТЭ | 8 | 6 | 0 | 2 | 11–3 | 18 |
| Тарпеда-БелАЗ | 8 | 5 | 2 | 1 | 13–6 | 17 |
| Нёман | 8 | 4 | 1 | 3 | 8–7 | 13 |
| Дынама (Мн) | 8 | 4 | 1 | 3 | 7–7 | 13 |
| Славія | 8 | 3 | 1 | 4 | 10–11 | 10 |
| Віцебск | 8 | 2 | 4 | 2 | 7–9 | 10 |
| Гарадзея | 8 | 2 | 2 | 4 | 3–11 | 8 |
| Гомель | 8 | 2 | 0 | 6 | 16–15 | 6 |
| Энергетык-БДУ | 8 | 1 | 3 | 4 | 10–18 | 6 |
| Слуцк | 8 | 1 | 3 | 4 | 7–16 | 6 |
| Дняпро | 8 | 1 | 3 | 4 | 5–12 | 6 |
| Мінск | 8 | 0 | 5 | 3 | 8–11 | 5 |
| Тарпеда | 8 | 1 | 1 | 6 | 2–8 | 4 |



Фота: dinamo-minsk.by

Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 МАЯ 2019 г.

ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ







# Савецкая разведка на «мяжы цывілізацый»

*У 1930-я гады Савецкі Саюз уважліва сачыў за тым, што адбываецца на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай. Рабілася гэта з дапамогай шматлікіх агентаў савецкай разведкі, якія дзейнічалі «за кардонам».*

## Ад «разведкі боем» да татальнага шпіянажу

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны Крэмль распачаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі так званую актыўную разведку, якая заключалася ў перакідцы добра ўзброеных атрадаў пад камандаваннем вайскоўцаў для арганізацыі нападаў на польскія вайсковыя і паліцэйскія гарнізоны, а таксама знішчэння «прадстаўнікоў варожых класаў». Найбольш гучнай акцыяй бальшавіцкіх дыверсантаў стаў напад на памежнае мястэчка Стоўбцы ў жніўні 1924 года, калі «партызаны» знішчылі паліцэйскі пастарунак, захапілі турму і вызвалілі некалькіх кіраўнікоў КПЗБ. Гэтай акцыяй камандаваў афіцэр РСЧА **Станіслаў Ваўпшасаў**.

Выклік быў кінуты, і польскі бок не мог не рэагаваць на актывізацыю дзейнасці бальшавіцкіх партызан ва ўсходніх ваяводствах. У жніўні 1924 года Савет міністраў Польшчы пад кіраўніцтвам прэзідэнта **Станіслава Вайцяхоўскага** прыняў рашэнне аб стварэнні новай структуры для аховы ўсходняй мяжы. 12 верасня Міністэрства абароны Польшчы выдала загад аб стварэнні Корпуса аховы памежжа (КАП). Гэта падраздзяленне арганізоўвалася як войска спецыяльнага прызначэння. У Варшаве разумелі, што ў беларускіх лясах хаваюцца не ўзбунтаваныя сяляне, а добра падрыхтаваныя вайсковыя разведчыкі, якія цудоўна ведаюць тактыку вядзення партызанскага бою. 1 лістапада 1924 года Корпус аховы памежжа прыняў пад нагляд участак савецка-польскага кардона на тэрыторыі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў, а з красавіка 1925 года да іх дадалося і Палескае ваяводства.

Масква была вымушана згарнуць «актыўную разведку» і перайсці да перакідвання на польскую тэрыторыю агентаў, мэтай якіх быў збор разведвальнай інфармацыі. У ліпені 1932 года Масква і Варшава падпісалі пакт аб ненападзе, што паспрыяла пацяпленню стасункаў паміж дзвюма краінамі. Аднак крыўда за 1920 год, калі палякі не пусцілі бальшавікоў у Еўропу, у Крамля засталася. Пры гэтым бальшавікі, як агню, баяліся збліжэння Польшчы з Германіяй. У студзені 1934 года Другая Рэч Паспалітая заключыла з Трэцім Рэйхам пакт аб ненападзе, што вельмі занепакоіла Сталіна і К°.

## Шпіянаж у памежнай зоне

Вялікая палітыка ўплывала на жыццё звычайных людзей па абодва бакі «рыжскай мяжы». Тэрыторыя польскіх паўночна-ўсходніх ваяводстваў стала арэнай актыўнай барацьбы паміж савецкай і польскай разведкамі. Супраць Польшчы дзейнічалі Галоўнае ўпраўленне дзяржбяспекі (ГУДБ), а таксама разведвальнае ўпраўленне Чырвонай Арміі (Разведупр). Непасрэдна на лініі кардона разведкай займаліся савецкія памежнікі. «Зялёныя фуражкі» павінны былі вывучаць памежную зону з двух бакоў (да 50 км углыб тэрыторыі сумежнай дзяржавы), трымаць «калідоры» на мяжы, займацца контрразведкай, а таксама вербаваць агентаў у памежнай зоне. У апошнім выпадку акцэнт рабіўся на тых, хто ўмеў карыстацца зброяй, выбухоўкай, чытаць карту. Гэта сведчыць пра тое, што бальшавікі рыхтавалі агентаў не толькі для збору разведвальнай інфармацыі, але і для дыверсійна-тэрарыстычнай дзейнасці на тэрыторыі сумежнай дзяржавы. Калі казаць пра Разведупр (з 1936 года IV разведвальны аддзел Генштаба РСЧА), то яго агенты павінны былі збіраць інфармацыю пра дыслакацыю вайсковых гарнізонаў і знаходжанне прамысловых прадпрыемстваў на тэрыторыі суседняй дзяржавы. У выпадку БССР вайсковай разведкай на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай займаўся IV аддзел Штаба Беларускай вайсковай акругі РСЧА ў Мінску. На лініі савецка-польскай мяжы разведвальную дзейнасць каардынавалі прадстаўнікі разведаддзела на памежных станцыях Негарэлае, у Полацку (18-ы памежны атрад), у Крайску (14-ы памежны атрад), на чыгуначнай станцыі Радашковічы (15-ы памежны атрад з Заслаўя), Дзяржынску (16-ы памежны атрад), Цімкавічах (17-ы памежны атрад) і Жыткавічах (18-ы памежны атрад).

## «Легенда» для шпіёна

У сталіцы БССР рыхтавалі агентаў для працы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Шпіёны вучыліся фарміраваць дыверсійныя групы з 3–5 чалавек, займацца дыверсіямі ва ўмовах вайны, вывучалі асновы канспірацыі, ваеннай тапаграфіі, геаграфіі краіны, у якой яны збіраліся дзейнічаць, а таксама структуры войска і паліцыі «капдзяржавы», супраць якой агентаў рыхтавалі. Важным была распрацоўка «легенды» на выпадак правалу. Звычайна арыштаваныя памежнікамі КАП дыверсанты з Мінска на допытах казалі, што яны зʼяўляюцца «сіротамі» (бацькі загінулі ці памерлі падчас Першай сусветнай вайны), а таксама па фізічных паказчыках не здольныя да вайсковай службы.

Кожны савецкі разведчык атрымліваў псеўданім, які выбіраўся, зыходзячы з яго характару ці тыпу асобы. У дакументах КАП сярод арыштаваных савецкіх шпіёнаў фігуруюць, напрыклад, агенты «Хітры», «Сціплая», «Спрытны». Пасля перакідвання на тэрыторыю Польшчы агент з Мінска павінен быў завербаваць яшчэ пяць чалавек з мясцовых жыхароў. Кожны з тых «шукаў» сваю «пяцёрку». Цікава, што савецкім разведчыкам рэкамендавалася пазбягаць вярбоўкі жанчын і камуністаў. Тлумачылася гэта справамі бяспекі: большасць аматараў камуністычных ідэй былі «на алоўку» ў польскай паліцыі і контрразведкі, а жанчыны былі слаба падрыхтаваныя і маглі не вытрымаць допытаў.

Зброю дыверсанты павінны былі шукаць самі ці звяртацца да... савецкіх памежнікаў, якія мелі адпаведныя інструкцыі на гэты выпадак. Увогуле, савецкія «зялёныя фуражкі» каардынавалі дзейнасць такіх агентаў, перадавалі ім паролі для пераходу мяжы, а таксама курʼераў, якія ведалі «вокны» на кардоне. Цікава, што ў 1937 годзе ў якасці пасрэднікаў паміж рэзідэнтамі і савецкай памежнай аховай сталі выкарыстоўвацца... дзеці ва ўзросце 9–14 гадоў. Відавочна, гэта было звязана з хваляй сталінскіх рэпрэсій, якая ахапіла ў тым ліку і памежную зону. У выпадку затрымання на мяжы савецкімі памежнікамі агент пасля прыезду на заставу павінен быў назваць прозвішча афіцэра, які яго курыруе, нумар службовага тэлефона куратара ў Мінску ці ўласны пароль і «мянушку». Пасля праверкі разведчыку выдавалася вайсковая форма і яго везлі ў сталіцу савецкай Беларусі. Кантакты памежнікаў з агентамі забараняліся. Так, у 1934 годзе некалькіх «вартавых мяжы» з 15-га памежнага атрада з Заслаўя перавялі ў іншае месца службы толькі за тое, што яны падчас перакуру разгаварыліся з разведчыкам, які прыйшоў з мястэчка Краснае.

## З «ліпавым» пашпартам і брытанскай гранатай

У Мінску працавала майстэрня па вытворчасці падробных польскіх дакументаў. Арыгіналы бланкаў атрымлівалі ад закардонных агентаў, а часцей ад перабежчыкаў з польскага боку. Больш за тое, савецкія агенты часта карысталіся арыгінальнымі дакументамі арыштаваных за нелегальны пераход мяжы польскіх грамадзян. Чэкісты асабліва звярталі ўвагу на дробязі. Цікавым зʼяўляецца той факт, што савецкія агенты, якія пераходзілі мяжу ў бок Польшчы, павінны былі чысціць боты крэмам польскай ці заходняй вытворчасці. У Мінску быў нават невялікі склад «буржуазных рэчаў», якія пад распіску выдаваліся тым, хто накіроўваўся «за кардон». Курʼеры, якія пераходзілі савецка-польскую мяжу даволі часта, былі ўзброены рэвальверам сістэмы Нагана ці пісталетам «Браўнінг», а таксама мелі брытанскія ручныя гранаты «Мілс». У сваю чаргу агенты, якія накіроўваліся ўглыб польскай тэрыторыі, мелі толькі ручныя гранаты і савецкі компас. Ад апошняга шпіёнам рэкамендавалася пазбавіцца пасля пераходу мяжы. Паводле інструкцыі, агентам забаранялася прымаць бой супраць жаўнераў КАП, аднак у выпадку, калі шпіён быў заўважаны польскімі памежнікамі, рэкамендавалася закідаць палякаў гранатамі і адысці ў бок савецкай памежнай заставы. Паводле справаздач КАП, у 1936 годзе найбольш актыўна перакідка савецкіх разведчыкаў на польскі бок адбывалася ў Віленскім ваяводстве.



## Шантаж – зброя шпіёна

Галоўную ролю ў дзейнасці савецкай разведкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі адыгрывалі рэзідэнты. У іх задачу ўваходзіла каардынацыя разведвальнай дзейнасці. Легалізавацца разведчыкам з Краіны Саветаў на тэрыторыі Польшчы дапамагалі агенты-этапнікі, якія былі польскімі грамадзянамі і спрыялі «гасцям з усходу» адаптавацца ў новых ўмовах жыцця. На тэрыторыі БССР чэкісты вывучалі паштовую карэспандэнцыю, якую грамадзяне «дзяржавы працоўных і сялян» атрымлівалі ад сваякоў з тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, і вызначалі перспектыўных для вярбоўкі асоб. Нехта працаваў на польскай чыгунцы, іншыя мелі сваякоў у Войску Польскім ці дзяржаўнай паліцыі. Ідэалагічная апрацоўка польскіх грамадзян падчас вярбоўкі працавала не заўсёды і тады ў справу ішоў шантаж, звязаны з лёсам сваякоў, якія жылі ў «імперыі Сталіна». Звычайна гэты аргумент прымушаў жыхароў Заходняй Беларусі пагадзіцца на супрацоўніцтва з рэзідэнтам бальшавіцкай разведкі.

Савецкім шпіёнам забаранялася рабіць нататкі падчас збору інфармацыі. Пры гэтым ім рэкамендавалася набыць у Польшчы фотаапарат «Kodak-Retina» ці «Compour» і выкарыстоўваць яго для збору разведвальных дадзеных. Самым распаўсюджаным відам сувязі, праз якую «чырвоныя» шпіёны перадавалі сабраныя дадзеныя «ў цэнтр», была звычайная пошта, з дапамогай якой высылаліся паведамленні. Папяровыя дэпешы шыфраваліся. Так, напрыклад, фраза «У мяне захварэла жонка» азначала, што рэзідэнт паведамляе ў тэксце адрас завербаванага ім чалавека. У сваю чаргу сказ «10 красавіка ў мяне памёр сын» азначаў, што 10 мая агент чакае курʼера. Сваю ролю ў канспірацыі адыгрывалі колер канвертаў, паперы, паштовых марак і г.д. Акрамя гэтага, савецкая разведка выкарыстоўвала спецыяльныя шыфры «Р-15» і «Р-16», дзе ў кожнай літары было сваё значэнне.

Разведдадзеныя перадаваліся таксама з дапамогай узгаданых вышэй курʼераў, якія жылі ў памежнай зоне і часта хадзілі праз кардон. Варта адзначыць, што на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай савецкая разведка актыўна карысталася партатыўнымі кароткахвалевымі радыёстанцыямі. Да кожнай прылады дадаваўся каляндар радыёразмоў на адзін год. Агент з Польшчы перадаваў часцей за ўсё лічбавы код, які ў Мінску дэшыфраваўся з дапамогай спецыяльнай кнігі. Здараліся выпадкі, калі савецкія агенты ішлі ў Польшчу, маючы толькі некаторыя дэталі радыёстанцыі, а ўжо на месцы камплектавалі перадатчык і пачыналі «працаваць». Нарэшце, для перапраўкі паведамленняў у БССР таксама выкарыстоўваўся тэлеграф і час ад часу міжнародныя пасажырскія цягнікі, якія рухаліся праз памежны калідор Коласава–Негарэлае.

## Што цікавіла Лубянку

Перш за ўсё савецкі бок збіраў інфармацыю пра дыслакацыю буйных гарнізонаў Войска Польскага ў Баранавічах, Нясвіжы, Пінску, Гродне, Брэсце і іншых гарадах. Асаблівую ўвагу бальшавікі надавалі фартыфікацыйным работам польскіх ваенных інжынераў на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

У 1936 годзе ў вёсцы Дарава загінуў савецкі агент Васіль Нямера, які ў раёне ўзгаданага населенага пункта збіраў разведвальную інфармацыю, якая мела дачыненне да будаўніцтва польскіх доўгатэрміновых абарончых умацаванняў. Нагадаю, што ў другой палове 1930-х гадоў польскае вайсковае камандаванне вырашыла мадэрнізаваць старыя нямецкія бункеры ў раёне Баранавічаў і пабудаваць новыя. Паводле польскага абарончага плана «Усход», у выпадку вайны з СССР Баранавіцкі ўмацаваны ўчастак на Палессі павінен быў спыніць падраздзяленні Чырвонай Арміі, якія наступалі б праз гэты «калідор» на Варшаву. 23-гадовы Васіль Нямера трапіў у поле зроку польскіх паліцыянтаў і пры спробе арышту застраліўся.

Варта адзначыць, што не менш увагі савецкае вайсковае камандаванне надавала і польскім умацаванням у Віленскім ваяводстве. Цікавіўся савецкі бок інфармацыяй пра чыгуначную сетку і польскія ваенныя аэрадромы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Нарэшце, у другой палове 1930-х гадоў чэкісты сталі аналізаваць магчымасць польска-нямецкага вайсковага супрацоўніцтва, накіраванага супраць Савецкага Саюза. Так, савецкім шпіёнам належала высветліць, ці назіраецца прысутнасць германскіх ваенных саветнікаў у польскіх гарнізонах і абʼектах. У 1938 годзе бальшавіцкія разведчыкі пачалі вывучаць настроі насельніцтва Заходняй Беларусі. Звязана гэта было з тым, што Еўропа наблізілася да небяспечнай рысы, якой стала Другая сусветная вайна. Пасля нападу Германіі на Польшчу савецкая разведка пачала рыхтаваць і перакідваць «за кардон» узброеныя дыверсійныя падраздзяленні, якія пасля пераходу Чырвонай Арміяй савецка-польскай мяжы раніцай 17 верасня 1939 года дапамагалі савецкім войскам знішчаць польскую вайсковую і дзяржаўную інфраструктуру на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# «Тот не человек, кто это забудет»

Сердечно благодарю «Народную Волю» и журналиста Елену Молочко за статью в моей любимой газете «Народная Воля» (№23 (4378) за 22 марта 2019 года) «Тот не человек, кто это забудет»! Ваша публикация всколыхнула белорусское Полесье, мне позвонили десятки людей, которые знали меня или которые когда-либо общались со мной. Действительно, в день Памяти 19 марта в Озаричи приехали известные люди из Германии и России, но от высшей власти, к сожалению, никто так и не появился, хотя я от имени Белорусского союза общественных объединений бывших узников фашизма «Эхо войны» приглашал многих принять участие в траурном митинге 19 марта. Но самое удивительное в том, что на мое письмо до настоящего времени не поступил ответ.

Хочу лично выразить вам свою благодарность за ваши публикации не только в память об узниках фашистских концлагерей, но и за все другие материалы в газете, которые с интересом читаются и заставляют думать о том, когда мы переживем этот беспредел.

Редакции газеты я передаю в дар книгу «Полесье: трагедия и память. Преступления вермахта: концлагерь «Озаричи», 1944 год». Высылаю также вам мое обращение в Администрацию президента об объявлении 19 марта Днем мученика нацизма.

С уважением –

**Аркадий ШКУРАН.**

# Повернитесь лицом...

*Ходатайство к Главе Администрации Президента Республики Беларусь **Наталье Ивановне Кочановой** об установлении в Беларуси Дня мученика нацизма*

*(Печатается в сокращении.)*

Уважаемая Наталья Ивановна! Я приношу Вам свои извинения за то, что настоящим обращением отрываю Вас от важных государственных вопросов. Однако решение нашей проблемы, проблемы бывших узников фашистского концлагеря «Озаричи», требуют вмешательства Президента Республики Беларусь. Именно поэтому в соответствии со статьей 59 Конституции Республики Беларусь повторно прошу Вас, Наталья Ивановна, лично вникнуть в суть нашей проблемы, так как за ней стоят еще живые люди, граждане Республики Беларусь, узники концлагерей, доживающие свой нелегкий век, и доложить Президенту Республики Беларусь наше ходатайство об установлении памятного дня 19 марта – Дня мученика нацизма.

Не кажется ли Вам, что отношение к узникам фашистских концлагерей – жертвам нацизма в Беларуси похоже на какое-то издевательство?

Кто в этом повинен?

В 2000 году германский Бундестаг принял закон об образовании Фонда «Память, ответственность и будущее», в преамбуле которого записано: *«Германский Бундестаг признает свою политическую и моральную ответственность перед жертвами национал-социализма. Он хочет, чтобы об этой несправедливости помнили и будущие поколения».* Германский Бундестаг признал узников фашистских концлагерей, тюрем, гетто и лиц, уведенных в рабство, *жертвами национал-социализма.*

Более того, Германия приняла закон о запрещении публичного отрицания, приуменьшения, одобрения или оправдания преступлений, совершенных нацистами.

Законом Республики Беларусь «О внесении изменений и дополнений в Законы Республики Беларусь «О ветеранах» и «О статусе Героев Советского Союза, Героев Социалистического Труда, полных кавалеров орденов Славы и Трудовой Славы» от 29 декабря 2009 года №92-З внесены дополнения, определившие статус узников концлагерей как *«некоторая категория граждан, пострадавшая от последствий войн».*

Германский Бундестаг в упомянутом законе установил, что узники – *жертвы национал-социализма,* а белорусский законодатель упомянутым законом решил, что узники – это всего лишь *«некоторая категория граждан, пострадавшая от последствий войн».* Из сказанного можно сделать безошибочный вывод: законодатель Республики Беларусь отрицает злодеяния нацистской Германии, совершенные в период временной оккупации. Законодатель Республики Беларусь отрицает, что концлагерь «Озаричи» – место совершения нацизмом преступлений, что установил Нюрнбергский международный военный трибунал.

Нас осталось уже немного, скоро мы покинем этот мир. Но повернитесь, пожалуйста, лицом хотя бы к мертвым, к тем, кто умирал в газовых камерах, кто перенес на себе изуверские эксперименты, кто в страшных мучениях умирал от сыпного тифа на передней линии обороны, в болотах полесья, в Озаричах. И установите наконец в стране День мученика нацизма.

**Аркадий ШКУРАН, ответственный секретарь Белорусского Союза общественных объединений бывших узников фашизма «Эхо войны», бывший узник концлагеря «Озаричи».**

СЛЫШАЛИ?

# «МТБанк» возглавил 38-летний Дмитрий Шидлович

К работе в новой должности он приступил 20 мая. Данное решение было принято на собрании наблюдательного совета «МТБанка», сообщили в пресс-службе банка.

Шидлович с отличием окончил факультет международных отношений Белорусского государственного университета по специальности «Мировая экономика». В «МТБанк» пришел в 2012 году на позицию финансового директора. С 2014 года входит в состав правления банка.

Как известно, предыдущий руководитель «МТБанка» Андрей Жишкевич 4 декабря прошлого года указом президента был назначен на должность председателя правления Банка развития. Александр Титов, исполнявший обязанности главы «МТБанка» с 6 декабря 2018 года по 20 мая 2019 года, остается руководителем блока по работе со значимыми клиентами.

**Анна ГОНЧАРИК.**

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# «Адреналин не дал ему почувствовать приближение смерти…»

*Ровно месяц назад, 21 апреля, не стало известного пианиста и соучредителя футбольного клуба «Крумкачы» Юрия Блинова. Его мама, Лариса Гаврииловна, рассказала «Народной Воле» о том, как горел в творчестве и жизни ее сын.*

Новость, которая появилась 21 апреля этого года, шокировала многих: «*В Гомеле во время экомарафона умер известный белорусский пианист и соучредитель «Крумкачоў» Юрий Блинов. Трагическое происшествие случилось во время забега на 21 километр. Он умер, не добежав до финиша пять метров. Юрию Блинову было всего 43 года…*»

…С его мамой, Ларисой Гаврииловной, мы встречаемся в Центре повышения квалификации руководящих работников и специалистов в области ИТ, который она возглавляет. Говорит, что Юра был для ее коллег «как сын полка»:

– Кто-то помогал ему делать афиши, кто-то оказывал помощь в освоении новых технологий. 23 мая у него в Гомеле должен был пройти концерт, и он вез туда афишу, которую полностью сделал сам. Был этим горд и счастлив.

## Вундеркинд

– Юра родился, когда мне было 24 года, – продолжает Лариса Гаврииловна. – Мы с ним по гороскопу Львы, так что находили взаимопонимание во всем. Даже в каких-то мелочах. Оба просто влюблены в Полесье, в Дрогичин. Юра там родился, мы там жили, когда родился его младший брат. Кстати, второй мой сын, Гавриил, – тоже Лев по Гороскопу, мы с ним также часто на одной волне. Он такой же трудоголик, как и мы с Юрой, но в более тонких вещах все-таки немного другой. Поэтому мне так сейчас и тяжело. Я потеряла не только сына. Я потеряла друга, учителя и единомышленника.

**– Вы работали в Минске, но уехали рожать в Дрогичин. Почему?**

– Потому что там жила моя мама. Знаете, в советские времена правильнее было рожать в маленьком городе. И растить сына там было легче. Помню, Юра очень любил спать на улице, поэтому я постоянно выкатывала из дома коляску, когда сын засыпал. Даже в холод. Соседка приходила и говорила: «Вы с ума сошли! Зима, а у вас ребенок на морозе спит!»

Юра родился 3 августа 1975 года, помню, был очень теплый месяц. И поэтому он всю жизнь любил тепло. Даже когда его не было, он это тепло придумывал. Смотрю как-то, а он в марте уже в шортах по городу ходит.

**– Как в детстве проявлялся его музыкальный талант?**

– Юра вообще был одаренный мальчик. В четыре года начал читать, в четыре с половиной – писать и даже подбирать музыку. Когда в Минске пошел в детский сад, его не дразнили за заикание, потому что воспитательница давала Юре книгу, и он, пятилетний мальчуган, читал ее детям. Все его за это просто уважали.

В детстве сын переболел воспалением легких, и, возможно, это стало причиной того, что он заикался. Мы пытались лечиться самыми разными способами: ходили к врачам, обращались к разным бабкам и знахарям, экспериментировали с «особыми методиками». Два раза в Минске Юра лежал в стационаре, но окончательно заикание все равно не прошло. Но когда сын разговаривал на интересные темы с людьми, которые ему были приятны, то почти не заикался. А были те, с кем он не мог сказать и слова.

В детстве Юра знал, как включается проигрыватель, слушал Пугачеву и других исполнителей. Наша бабушка тоже прекрасно пела, она у нас обладала абсолютным слухом. И в два с половиной года сын уже совершенно чисто пел: «Этот День Победы поехом попах…»

**– Это такой природный музыкальный дар?**

– Наверное, гены сошлись с двух сторон. Бабушка мужа была регентом церковного хора, а его отец тоже имел абсолютный слух и хороший голос. И, кстати, похоронили мы Юру рядом с могилой прабабушки, которая была регентом.

Когда Юре было 5 лет, мы взяли напрокат пианино, и он стал подбирать музыку. Без проблем его взяли в школу с музыкальным уклоном. Сначала он занимался у одного педагога, но она от него отказалась. Юра был своенравным и к тому же заикался. Начал работать с молодым преподавателем. И вот эта девочка, помню, 8 марта приходит к нам домой и говорит: «Я больше не имею права учить вашего ребенка. Он талантливее меня. Его нужно учить и развивать иначе». Я отвезла его в школу-десятилетку при консерватории.

Кстати, в школе за Юру боролись сразу два отделения, в итоге сын пошел на фортепиано к Инессе Ивановне Бартошевич, которая, слава Богу, еще жива. Она не только нашла к сыну подход, но и развила его талант как замечательный педагог. Муж Инессы Ивановны был 2-м секретарем ЦК КПБ, и иногда в выходные дни они брали Юру к себе на дачу, чтобы позаниматься музыкой. Да и обстановка там была несколько другая. Хотя однажды сыну дали бутерброд с черной икрой, он понюхал и как отрезал: «Я это есть не буду!»

Но в 1987 году Геннадия Бартошевича отправили в почетную ссылку послом СССР в КНДР, и Юра с двенадцати лет стал заниматься с Людмилой Сергеевной Шеломенцевой – выдающимся преподавателем, одной из тех, кто создавал нашу фортепианную школу. Он был для нее и любимым учеником, и сыном. И почти во все заграничные поездки ездил только с ней. Мне иногда говорили: «У вас же есть шанс поездить с сыном по миру. Почему не воспользоваться?» А я отвечала так: «Рядом с Юрой должен находиться профессионал, который может ему помочь и подсказать».

Символично: Людмила Алексеевна ушла из жизни менее чем через месяц после смерти Юры.

## «Он пытался успеть везде…»

**– Как начиналась его музыкальная карьера?**

– Когда он готовился к Первому международному конкурсу имени Сергея Прокофьева в 1992 году, то занимался по 8–9 часов в день. Приезжал домой черный и изможденный. Но в итоге Юра стал победителем. При том, что конкурс проходил в Санкт-Петербурге и в нем принимал участие ученик председателя жюри. Но надо сказать, что в жюри были собраны известные пианисты со всего мира. И та победа дорогого стоила!

После этого один из членов жюри пригласил Юру на гастроли в Японию. Сын выступал в самых дорогих японских отелях, за две недели было семнадцать концертов! Это для юного музыканта очень много, за полученный там гонорар мы купили домой новый рояль.

Позже Юра закончил консерваторию и магистратуру, распределили его в филармонию солистом. Это считалось почетным распределением, хотя больших денег, безусловно, не приносило. И каждый месяц нужно было давать концерты не только в областных городах, но даже в клубах и колхозах. Однажды Юра приехал домой и говорит: «Я вчера на столе играл, а не на рояле». Но он никогда об этих двух годах в своей карьере не жалел.







Лариса Гаврииловна с сыном Юрием.





**– А в 2000 году уехал в США…**

– Ему предложили стажировку в Техасском Христианском университете. Выиграл там Всеамериканский конкурс пианистов, были концерты. В 2002 году был приглашен в олимпийский Солт-Лейк-Сити, где играл концерт в резиденции губернатора штата Юта. Кстати, он был корреспондентом «Народной Воли» на Олимпиаде, у меня хранятся вырезки с его отчетами, напечатанными в вашей газете. Позже стал первым белорусским пианистом, который выступил с сольным концертом в одном из залов знаменитого Карнеги-холла.

Потом он продолжил учиться в Истменской школе музыки в Университете Рочестера и в 2009 году получил степень «доктор музыкальных искусств».

В общей сложности Юра прожил в США около девяти лет.

**– Вы к нему приезжали в гости?**

– Не получилось. У мужа случился инсульт, и, хотя мы были с ним в разводе, я не могла оставить наедине с бедой отца своих детей. Тем более что два раза в год Юра приезжал в Минск и играл здесь концерты. И при этом собирал полные залы филармонии, хотя платили за это, безусловно, копейки. Однажды я даже написала по этому поводу статью в одно независимое издание, ее тут же перепечатал сайт «Хартия».

Я, естественно, сразу стала диссиденткой, очень сильно переживала и Людмила Сергеевна. Она говорила так: «Все, Юре теперь не дадут выступать в филармонии». А я ей отвечала: «Нет, сейчас они будут бояться». Знаете, сколько сын получал за концерт? Около 20 долларов!

**– Юрий мог бы остаться жить в Америке?**

– Такая возможность была, но так сложилось, что пришлось вернуться домой. Во-первых, в 2008 году США накрыл финансовый кризис, многие учебные заведения сокращали даже американских преподавателей. К тому же все собеседования по поводу работы были по телефону, а Юра заикался, и это было в какой-то степени преградой для трудоустройства.

Но сын к тому времени несколько раз съездил в Германию и просто влюбился в эту страну. Стал учить немецкий язык, рассчитывал там поработать.

Да и тосковал по дому. Уже тогда он начал думать над тем, как организовать в Дрогичине конкурс юных музыкантов «Палескі агеньчык». В итоге Юра принял решение вернуться в Минск.

Два года работал в Белорусской государственной академии музыки, затем в Белгосфилармонии, до 2017 года – в Государственном камерном оркестре, но по разным причинам вынужден был уйти. Зарегистрировался как индивидуальный исполнитель, начал играть сольные концерты в Верхнем городе, в областных центрах, музыкальных школах, в районных домах культуры. Кроме Беларуси у него были концерты в Германии, США, Венгрии, Польше и других странах. Был членом жюри международных конкурсов и фестивалей.

**– К тому же занимался конкурсом «Палескі агеньчык»…**

– Да, и при этом практически всю организацию брал на себя. Потому что максималист по жизни. И на первом «Палескім агеньчыку» было почти 250 участников из девяти стран. Это такое событие для города!

Еще один проект – «Молодые виртуозы». Юра готовил эти программы, сам участвовал, давал возможность выступить перед публикой юным талантливым исполнителям.

Я видела, что он просто горел, занимаясь своими делами. Он устраивал концерты, решал какие-то дела в футбольном клубе «Крумкачы», когда стал соучредителем. 12 мая у него должен был состояться концерт в Париже, осенью нужно было отправляться в Венгрию, а затем в США…

Он все время бежал и пытался успеть везде. Как любая мама, я сегодня виню и себя, что где-то не одернула, но мы бежали вдвоем.

## Последний марафон

**– Лариса Гаврииловна, а как вы отнеслись к тому, что Юрий стал соучредителем «Крумкачоў»?**

– Я ему сказала: «Ты что, с ума сошел?! Тебе только этого не хватало! Да и денег у тебя особо нету…» Он приводил аргументы: «Мама, там смешные деньги, а футбол и клуб я очень люблю».

И знаете, футбол на самом деле разгружал его психологически. Потому что любой концерт – это очень большая внутренняя работа. Накапливается такая психологическая усталость, что ее надо чем-то разгружать. Вот он и занимался «Крумкачамі», бегал свои марафоны. Сначала я была против, но затем увидела, что он приходит после бега веселый, спокойный, обновленный.

**– Вы знали, что он поедет в Гомель на полумарафон?**

– На полумарафон он записался еще 2 апреля, а сказал мне об этом по телефону вечером 20 апреля. Я собрала его, как обычно. Когда Юра куда-то ехал, он мне обязательно звонил: мол, все нормально, доехал. В тот раз сын не позвонил. Вечером его уже не беспокоила, на следующий день перед стартом – тоже, потому что марафонцы всегда стратегию разрабатывают перед соревнованиями.

Я была на работе, в обед меня в прямом смысле начало трясти. Звоню Юре – нет ответа, хотя должен уже финишировать. Затем мне позвонили, хотя всей правды не сказали. Сообщили, что, мол, Юре плохо, им врачи занимаются. Я еще затем полчаса его искала по всем гомельским больницам. И когда в пятой больнице мне сказали «не поступал», я все поняла. Поэтому перезвонила в Гомель тем, кто принимал участие в полумарафоне, и сказала: «Я хочу знать всю правду».

**– Сообщалось, что за несколько дней до того, как произошла трагедия, Юрий серьезно простудился…**

– Он заболел примерно за 10 дней до трагедии, затемпературил. Возможно, вирус дал какое-то осложнение, но сын ехал в Гомель в прекрасном настроении. Хотя был уставший. И остановить его я не могла. Если Юра что-то решил, отговорить его было невозможно.

Кроме того, когда сын ехал на марафоны с командой «Крылья ангела», я была спокойна, потому что там есть свой врач. Он, конечно, не проверял всех участников подряд, но присутствовал. Я знала, что они бегут, как правило, группой. Правда, перед стартом сын сказал: «Не побегу первым, что-то не совсем в форме». Но в итоге решил сделать рывок, опередив группу на 5 минут. Я не знаю, почему он так сделал.

Есть фотографии, на которых видно, что на старте он довольный, с улыбкой, а затем уже бежит тяжело. Но во время бега адреналин выбрасывается в кровь, и он глушит все остальное. Мне знакомые врачи сказали сразу: «Адреналин не дал Юре почувствовать приближение смерти».

К тому же надо знать характер моего сына, который все и всегда делал по максимуму. Может быть, он что-то и ощущал, но продолжал бег через «не могу». Юра бежал рядом с другим участником, тот финишировал и протянул руку, но… Сын уже был на земле. Врачи говорят, что сердце не выдержало большой нагрузки. В такой ситуации спасти можно было только на первой минуте, если бы кто-то ударил в грудную клетку и завел сердце.

**– Юрий следил за своим здоровьем?**

– В 2017 году он прошел полное обследование у своего друга-кардиолога. И тот сказал: «Да у тебя сердце спортсмена!»

Но сын же не первый раз бегал марафоны и полумарафоны. А почему не выдержало сердце? Может быть, из-за перенесенной ранее болезни, но, скорее всего, просто из-за накопившейся усталости.

**– Я знаю, что в последнее время Юрий жил вместе с вами. Он развелся с супругой?**

– Да, несколько лет назад Юра и Настя развелись. Сын женился в 35 лет, почти сразу после приезда из Америки. С будущей супругой они были знакомы и раньше. Тоже пианистка, также училась у Людмилы Сергеевны, младше Юры на семь лет.

Когда они начали встречаться, я поддерживала их отношения, потому что думала: пианист пианиста всегда поймет, а понимание – это главное в семейных отношениях. Но я ошиблась…

**– Сколько они прожили вместе?**

– В 2010 году была свадьба, через три года родился Мирослав, а в 2017-м официально развелись. Юра не давал согласия на развод, но Настя самостоятельно пошла в суд и оформила разрыв отношений. Хотя развод был правильным шагом. После этого Юра спокойно ходил к бывшей жене, забирал сына, играл с ним. Но не было скандалов.

И сейчас я понимаю, почему мне нужно держаться. Потому что самый простой путь – это кричать, биться головой о стенку, сходить с ума. Но нужно думать о том, что есть внук Мирослав, которого еще растить и растить. И есть младший сын и внуки.

Гавриил мне сказал: «Мамочка, ты только не заболей. Потому что то, что ты сделаешь сейчас для Юры, я сделать не смогу. И никто не сможет…»

А сделать надо многое: продолжить его проекты, в том числе «Палескі агеньчык», издать ноты написанных им произведений, выпустить диски с записью его концертов, может быть, издать стихи.

Спасибо всем, кто высказал соболезнования, пришел проститься с моим сыном, помог нам в трудную минуту…

**Алесь СИВЫЙ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.05.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 020 экз. Заказ № 1582.

9 772071 964000 19039